www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадо...*
*Якуб КОЛАС*

№ 40 (4292)

18 мая 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Шаноўныя сябры!*
*Не забудзьце падпісацца на "Народную Волю" на другую палову 2018 года!*

АВАЛЬНАЯ ЗАЛА

## ШТО ЧАКАЕ ДАРМАЕДАЎ...

Учора ў Палаце прадстаўнікоў дэпутаты падтрымалі новы прэзідэнцкі дэкрэт аб садзейнічанні занятасці, які ў народзе празвалі "дэкрэтам аб дармаедстве". Усе прысутныя ў зале дэпутаты, акрамя двух, прагаласавалі "за".

Як вядома, дэкрэт быў падпісаны ў канцы студзеня 2018 года. Прадстаўнікі ўлады сцвярджаюць, што яго галоўная мэта – дапамагчы працаўладкавацца ўсім, хто ў гэтым мае патрэбу. На мясцовым узроўні будуць стварацца адмысловыя камісіі з прадстаўнікоў розных службаў, і паводле вынікаў іх працы Міністэрства сацыяльнай абароны сфарміруе базу не занятых у эканоміцы працаздольных грамадзян. Таксама, згодна з дэкрэтам, на месцах мусіць праводзіцца праца, скіраваная на стварэнне новых працоўных месцаў.

Спіс не занятых у эканоміцы падрыхтуюць да 1 снежня 2018 года і штоквартальна будуць абнаўляць.

Тыя, каго вызначаць дармаедам, не будуць плаціць ніякіх падаткаў, як было раней, а будуць аплачваць поўны кошт ацяплення, гарачага водазабеспячэння і газу. Праўда, у тым выпадку, калі яны з'яўляюцца плацельшчыкам паслуг. Плацельшчык – гэта ўладальнік жылля, наймальнік, лізінгатрымальнік, а таксама ўдзельнік долевага будаўніцтва. А калі кватэрай альбо домам валодае працуючы беларус, але хто-небудзь з членаў яго сям'і трапіць у спіс дармаедаў, то паслугі ЖКГ будуць аплачвацца ў звычайным парадку. Між іншым, і ўладальнік-дармаед будзе плаціць па поўным коште толькі частку паслуг. Напрыклад, у кватэры, плацельшчыкам якой ён з'яўляецца, прапісаны тры чалавекі. Значыць, толькі трэць паслуг будзе аплачваца па эканамічна абгрунтаваных цэнах, астатнія 2/3 – па коштах, якія субсідзіруюцца дзяржавай.

Раней заяўлялася, што па поўным кошце дармаеды пачнуць плаціць за гарачую ваду з 1 студзеня 2019 года, газазабеспячэнне і цеплазабеспячэнне – з 1 кастрычніка 2019 года.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**



ЗНАЁМЦЕСЯ!

### У прадстаўніцтва ААН – новая кіраўніца

*Днямі ў Мінск прыехала новы пастаянны каардынатар ААН, пастаянны прадстаўнік ПРААН у Беларусі Янна Казана-Вішнявецка.*



Яна таксама прызначана прадстаўніком Фонду ААН у галіне народанасельніцтва (ЮНФПА) у Беларусі і кіраўніком офіса ААН дэпартамента грамадскай інфармацыі.

Янна Казана-Вішнявецка родам з Польшчы, мае ступень магістра эканомікі і міжнародных адносін Варшаўскай школы эканомікі. Валодае англійскай і расійскай мовамі. На пасадзе кіраўніка прадстаўніцтва ААН у Беларусі яна змяніла Санаку Самарасінху, які завяршыў сваю місію ў Мінску 30 красавіка гэтага года.

Сваю кар'еру Казана-Вішнявецка пачынала ў краінавым офісе ПРААН у Варшаве. Яна таксама працавала асістэнтам пастаяннага прадстаўніка ў офісе ПРААН у Літве і намеснікам пастаяннага прадстаўніка ПРААН ва Украіне, дзе пад яе кіраўніцтвам была распрацавана маштабная праграма па развіцці на мясцовым узроўні.

Як паведамляе БелаПАН, з 2010 года Казана-Вішнявецка працавала ў штаб-кватэры ПРААН у якасці начальніка аддзела па заходніх краінах СНД і краінах Закаўказзя, а затым – на пасадзе кіраўніка аддзела па сувязях і наглядзе над краінавымі офісамі Рэгіянальнага бюро ПРААН па краінах Еўропы і СНД у Нью-Ёрку.

КРЫМІНАЛ

### Зламілі на «адкатах»

*На чыноўнікаў гарвыканкама Баранавічаў распачалі 22 крымінальныя справы.*

Праверка выявіла парушэнні заканадаўства пры выдачы субсідый на арганізацыю прадпрымальніцкай і рамесніцкай дзейнасці.

Агулам нанесеная дзяржаве шкода ацэньваецца ў 59,7 тысячы рублёў.

ВІНШУЕМ!

## Маэстра Міхаіл Казінец – чалавек-брэнд



Чым вялікія дырыжоры падобны на вялікія караблі? Яны таксама заўсёды ў плаванні, толькі ў сваім, музычным. Гады і нягоды – гэтых слоў для іх не існуе, адзін клопат – спадарожны вецер у ветразі.

Сёння найстарэйшаму дырыжору Беларусі, народнаму артысту, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі і Прэміі прэзідэнта «За духоўнае адраджэнне» прафесару **Міхаілу Антонавічу Казінцу** спаўняецца 80 гадоў. Як ён адзначыць свой юбілей? Стане за дырыжорскі пульт роднага калектыву – Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І.Жыновіча – і дасць вялікі канцэрт. Толькі адбудзецца гэта не ў Мінску, а на радзіме маэстра – у горадзе Вілейцы. А сталічнай публіцы прыйдзецца пачакаць да восені: у наступным сезоне ў Белдзяржфілармоніі Міхаіл Казінец абяцае даць адразу тры юбілейныя канцэрты.

Я часам думаю, чаму Міхаіл Антонавіч выглядае такім маладым. Часта і з задавальненнем ходзіць пешшу? Правільна харчуецца? Любіць пахадзіць з касой па лузе? Гэта ўсё, як гаворыцца, дадаткі да асноўнай «стравы». Галоўнае – ён па-ранейшаму творча ненасытны, прагны да працы. Сам прызнаецца: музыка яго зрушвае, сцэна прыцягвае як магніт. Няма стомленасці ад працы. Так, кажа, пасля канцэрта, бывае, і пра ўзрост успомніш. А стаіш перад аркестрам – і парыш, як у нябёсах.

Міхаіл Антонавіч – чалавек мудры, таму ўмее быць, як кажа сам, дыктатарам над сабой: усяго ў творчасці ён дасягнуў шляхам найвялікшай самадысцыпліны і працавітасці. Быў хлопчыкам з вёскі, які бойка іграў на гармоніку. Аднавяскоўцы любілі запрашаць яго на вяселлі. Што яшчэ трэба чалавеку! Застаўся б у вёсцы – заўсёды быў бы сыты і нос у тытуні. Але ён з'ехаў з бацькоўскай хаты, пайшоў вучыцца, атрымаў дзве кансерваторскія адукацыі – па класе баяна і класе дырыжыравання. Упарта працаваў над сабой і нарэшце ў 1975 годзе стаў галоўным дырыжорам Нацыянальнага аркестра народных інструментаў, атрымаўшы гэтую пасаду як эстафету з рук самога заснавальніка калектыву – легендарнага Іосіфа Жыновіча.

Цяпер Нацыянальны акадэмічны народны аркестр – гэта сапраўдны музычны брэнд Беларусі, галоўны аркестр нашай краіны. І мы ад душы жадаем творчага палёту і новых дасягненняў яго таленавітаму мастацкаму кіраўніку і галоўнаму дырыжору Міхаілу Антонавічу Казінцу!

**Алена МАЛОЧКА.**

ПОЛИТКУХНЯ

Николай КОЗЛОВ,
председатель Минской городской организации ОГП:

## «Во властных, силовых структурах много желающих развалить партию»



*Летом пройдет отчетно-выборный съезд Объединенной гражданской партии. Анатолий Лебедько, который руководит ОГП 18 лет, уже заявил, что не будет баллотироваться в председатели партии. Что думают об этом решении активисты партии? Ожидают ли борьбы на выборах? Не случится ли в рядах ОГП раскол?*

*Свою позицию накануне съезда озвучил в интервью «Народной Воле» руководитель столичной организации ОГП* ***Николай КОЗЛОВ.***

**– Николай Георгиевич, на ваш взгляд, Лебедько правильно делает, что уходит? Некоторые молодые демократы ОГП заявляют, что «рейтинг у него ужасный»...**

– Что касается меня, то это решение Анатолия я воспринимаю с грустью. На мой взгляд, он как раз тот лидер, который нужен партии. Надо понимать, что в нашей стране ОГП, как и любая оппозиционная структура, не имеет возможности полноценно работать. Членов партии преследуют, подвергают арестам и т.п. Анатолий Лебедько – настоящий боец, и ему не нужно это доказывать.

Есть люди, которые пишут в соцсетях, что Лебедько должен уйти. Отдают ли они себе отчет в том, насколько масштабные задачи стоят перед любой оппозиционной партией? На мой взгляд, это разговоры людей, которые ни за что не отвечают. Легко говорить, но сложно, как показывает практика, ежедневно решать организационные, финансовые и многие другие вопросы.

**– Вы имеете в виду «молодых демократов»?**

– Что касается «молодых демократов»... Например, активно выступающий против Анатолия Лебедько Дмитрий Ковалгин не является заместителем председателя организации «Молодые демократы», как подают его некоторые СМИ. Это, кстати, результат выборов, прошедших совсем недавно. Поэтому считать его рупором молодежной организации я не стал бы.

Наша партия – и это ее отличает от таких структур, как «Белая Русь», – демократичная, либеральная, и каждый член ОГП имеет право на свое мнение. Но принцип демократии – это все же мнение большинства. Уверен: выставь Лебедько свою кандидатуру на предстоящем съезде – он, безусловно, победил бы.

**– О своих намерениях поучаствовать в выборах объявили депутат Палаты представителей Анна Канопацкая и зампредседателя партии Василий Поляков. А вы не задумывались о роли лидера? У вас партийный опыт, безупречная репутация...**

– Спасибо за высокую оценку... Баллотироваться на должность председателя ОГП может любой член партии, и, думаю, кандидатов к съезду будет больше. Что касается меня, то я приму решение после участия в областных конференциях.

Надо понимать, что сейчас решается дальнейшая судьба партии. Ведь о ней беспокоимся не только мы, но и спецслужбы. Во властных, силовых структурах много желающих развалить ОГП.

**– Вы сейчас намекаете на то, что силовики могут продвигать на должность председателя партии «своего человека»?**

– В нашей стране возможно всё! Все знают о методах работы силовиков, их стремлении «сотрудничать» с членами оппозиционных партий. Попытки разрушить ОГП изнутри никогда не прекращались и всегда будут на злобу дня.

**– Лично вы задумывались о том, кого хотели бы видеть в роли нового лидера ОГП? За кого голосовали бы? Я слышала, что многим импонирует кандидатура Александра Добровольского...**

– Я такое мнение тоже поддерживаю... Мне еще импонирует кандидатура Василия Полякова. Он очень хорошо зарекомендовал себя как заместитель председателя партии, имеет высокий авторитет в организации.

На самом деле в ОГП достаточно достойных людей, но среди них желающих возглавить партию не так много. Они понимают, что это огромная ответственность, это тяжелая, неблагодарная работа, это в какой-то мере самопожертвование.

**– Николай Георгиевич, а не станет ли будущий съезд партии последним для ОГП? Не произойдет ли раскол? Упомянутый выше Дмитрий Ковалгин, кстати, ваш заместитель в Минской городской организации, недавно заявил, что внутри ОГП нет единства, принято создавать врагов. Ранее ими были определены Андрей Дмитриев (сейчас сопредседатель общественного объединения «Говори правду!»), Олег Корбан (лидер зарегистрированного в Латвии общественного объединения «Альтернатива»). Сейчас эта роль «отдана» Анне Канопацкой, которая уже заявила об участии в выборах.**

– Полная ерунда! Человек, который это заявляет, по-моему, не совсем понимает значение слов, оттого и пользуется ими легкомысленно.

Некоторое раздражение у членов партии действительно есть. Ведь когда Анна Канопацкая взяла депутатский мандат, мы ее поддержали и ожидали от нее как от члена ОГП твердости и последовательности в отстаивании демократических ценностей. Ожидали, что она станет настоящим депутатом, который громко и отчетливо заявит с трибуны парламента о том, что сердца белорусов требуют перемен.

*(Окончание на 2-й стр.)*

*www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».*

СТАЛІЦА

# З наваселлем!

*Сёння намеснік старшыні Мінгарвыканкама Фёдар Рымашэўскі ўручыць ключы ад новых кватэр дваццаці сем'ям, якія мелі вострую патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Так – не словам, а справай – гарадскія ўлады адзначаюць сёлета Дзень сям'і.*



### «Гэта сацыяльнае жыллё»

Навасёламі стануць сем'і, якія з-за нізкага ўзроўню даходаў не маглі сваімі сіламі зарабіць на новае жыллё.

Вось што расказала "Народнай Волі" прэс-сакратар Мінгарвыканкама **Алена Мохар.**

– Зварот да прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі аб паляпшэнні жыллёвых умоў для гэтых сем'яў ініцыяваў старшыня Мінгарвыканкама Андрэй Шорац, – гаворыць яна. – Кіраўнік дзяржавы даў згоду на такі крок. У выніку было прынята рашэнне аб выдзяленні ў двух дамах па вуліцы Калеснікава, 37 і па Налібоцкай, 22 двух дзясяткаў кватэр у якасці жылых памяшканняў сацыяльнага выкарыстання.

Падкрэслю: гэта не арэнднае жыллё, за якое акрамя камунальных паслуг трэба плаціць яшчэ і арэндную плату. Гэта сацыяльнае жыллё: навасёлы будуць аплачваць выключна "камуналку".

**– Каму будуць прадастаўлены новыя кватэры?**

– Хачу адзначыць, што першапачаткова гэтыя кватэры былі пабудаваны для размяшчэння ў іх дзіцячых дамоў сямейнага тыпу. Але ў сувязі з тым, што колькасць дзетак-сірот у Мінску скарачаецца і прыярытэтам па-ранейшаму застаецца ўладкаванне дзяцей у сем'і ці на сямейныя формы выхавання, у горада з'явілася магчымасць аддаць гэтыя квадратныя метры тым, каму яны жыццёва неабходны. Так, ключы ад новага жылля атрымаюць шматдзетныя сем'і, якія выхоўваюць чацвярых дзяцей, з узроўнем даходаў ніжэй за пражытачны мінімум. Для гэтай катэгорыі грамадзян выдзелены чатыры чатырохпакаёвыя кватэры. Восем трохпакаёвак будуць перададзены сем'ям, даход у якіх ніжэй за пражытачны мінімум і ў якіх гадуецца па трое дзетак. Таксама чатыры двухпакаёвыя кватэры атрымаюць сем'і, якія выхоўваюць дзяцей-інвалідаў са спадчыннымі паталогіямі і дэфектамі. Чатыры аднапакаёўкі прызначаны для людзей з захворваннямі, якія даюць права на атрыманне асобнага жылля.

### «У такое свята дазволіла дачцэ ў школу не ісці…»

*"Народная Воля" расшукала адну сям'ю шчаслівых навасёлаў, якія сёння атрымаюць ключы ад новай кватэры. Гэта Анастасія і Яўген Дайнаковы – бацькі трох малалетніх дзяцей.*

– У нас трое дзетак, – распавядае Анастасія. – Старэйшай дачцэ Валерыі восем гадоў, яна ходзіць у школу. Уладзіславу пяць, а самай малодшай Арыцы два гады. З малодшай я зараз знаходжуся ў дэкрэтным адпачынку, яна пастаянна са мной дома. У дзяўчынкі 1-я група інваліднасці – хворае сэрца.

Усе разам мы жывём у аднапакаёўцы на Якубоўскага. Самі мы не здолелі б набыць больш прасторнае жыллё. Не такое фінансавае становішча ў нашай сям'і, калі гаварыць шчыра. Да дэкрэтнага адпачынку я працавала на прадпрыемстве "Чаўляр", якое спецыялізуецца на вырабе абутку. Заробак быў зусім невялікі – да дэнамінацыі я атрымлівала каля двух мільёнаў рублёў. Не ведаю, колькі атрымлівала б зараз, але думаю, што не нашмат болей. Мой муж працуе звычайным слесарам у прыватнай арганізацыі. У яго аклад таксама невялікі – у раёне 200 рублёў. Ну і як бы мы, скажыце, жыллё сабе купілі? Дзяцей жа трэба абуваць-апранаць, карміць… Пра больш прасторнае жыллё нам заставалася толькі марыць…

Дарэчы, дакументы на атрыманне сацыяльнага жылля мы падавалі яшчэ ў 2012 годзе. І вось нядаўна нам патэлефанавалі з Мінгарвыканкама і запрасілі прыехаць да Ратушы 18 мая, дзе ўрачыста ўручаць ключы ад жылля. Ад радасці я анямела!

Шчыра прызнацца, у новай кватэры я яшчэ не была, не бачыла, што там і як. Ведаю толькі, што нас засяляць у трохпакаёвую кватэру. Якія ў мяне эмоцыі з гэтай нагоды? Канечне, гэта ўздзячнасць і радасць! Я нават дачцэ дазволіла ў дзень наваселля ў школу не ісці – у цэнтр Мінска за ключамі мы паедзем усёй сям'ёй. А адтуль – у новую кватэру.

Ці пацягнем аплату "камуналкі"? Думаю, што з гэтым мы справімся.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**



**НА ФОТА Дом па Налібоцкай, 22. Анастасія Дайнакова з дзецьмі.**

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ



# «Русь молодая» ўзняла свой «востры меч» на царкву?

"Ой, что-то мы засиделись, братцы. Ой, не пора ли нам разгуляться?" – спявае "Русь молодая" на незлічоных відэаролíках, раскіданых па інтэрнэце. Нялішне будзе нагадаць, што ролікі тыя наскрозь пранізаны мілітарным духам, а фонам там – перамоганосная вайна ў Данбасе, дзе бравыя хлопцы з гранатамётаў "мочаць укропаў".

Не трэба быць экспертам-адмыслоўцам, каб зразумець відавочнае: "Русь молодая" ("Румол") гатова насаджаць "русский мир" дзе палічыць і як палічыць патрэбным. "Дайте коня мне и острый меч", – гучыць у тым неафіцыйным гімне арганізацыі, якая (цытую статут) мае нібыта мірную мэту "формирование патриотической общерусской идеологическо-культурной базы в молодежной среде" і прапагандуе "общерусский патриотизм" пад лозунгам "Единая Русь – единая история".

Хто, значыць, не хоча ў тую "Единую Русь", тых, маўляў, гранатамётамі ўгаворым…

Дзіўна, але "Румол" бесперашкодна дзейнічае ў Беларусі – арганізоўвае лекторыі, семінары і ваенізаваныя летнікі, раздае на вуліцах георгіеўскія стужкі. Актыўна спрычыніліся "Русь молодая" і да нядаўняй акцыі "Несмяротны полк", запачаткаванай у свой час Пуціным.

Але ўсяго гэтага "румолаўцам" падалося мала, і вырашылі яны памахаць сваім "вострым мячом" і ў праваслаўнай царкве. Актывіст арганізацыі (між іншым, выкладчык Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта) **Аляксандр Бабук** "внедрился" ў БПЦ і выявіў там "нацыяналістаў" – святароў, якія карыстаюцца ў богаслужэнні беларускай мовай. "Гвалтоўную беларусізацыю" ў сваіх прыходах, на думку Бабука, праводзяць настаяцель сабора Усіх Беларускіх Святых у Гродне Анатоль Ненартовіч і настаяцель тамтэйшага Свята-Пакроўскага сабора Георгій Рой.

Пільнавокі і чуйнавухі "румолавец" у спіс падазроных уключыў і старшыню Сінадальнага інфармацыйнага аддзела БПЦ Сяргея Лепіна, які выступіў 25 сакавіка на святкаванні 100-годдзя БНР.

У дзейнасці пералічаных духоўных асоб Бабук убачыў пагрозу "агульнарускаму царкоўнаму адзінству", пра што і паведаміў у адмысловым звароце Патрыярху Маскоўскаму Кірылу (што выглядае даволі непаважліва ў адносінах да ягонага экзарха мітрапаліта Паўла).

Рэвізору моўнай палітыкі БПЦ яўна не хапае гістарычных ведаў. Вінавацячы айца Сяргея Лепіна за прывітальнае слова, прамоўленае 25 сакавіка каля Опернага тэатра, ён, відаць, і паняцця не мае, што Маскоўскі Патрыярх Ціхан у 1918 годзе дабраславіў стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, накіраваўшы ў Мінск адпаведны зварот (ён, дарэчы, шматкроць публікаваўся). Дык што, адзін патрыярх прывітаў БНР, а другі па падказцы Бабука павінен яе анафематстваваць, бо яна, бачыце, не падабаецца нейкаму там "Румолу"?

Правакацыйна выглядае і прыдуманая Бабуком "гвалтоўная беларусізацыя праваслаўнага жыцця ў Гродне". Мяркуйце самі – там у Свята-Пакроўскім саборы служаць дзесяць святароў, з іх толькі адзін прапаведуе па-беларуску. Адзін з дзесяці! Гэта шаноўны айцец Георгій Рой, за што яго паважаюць вернікі, якія хочуць маліцца на роднай мове. Хто хоча па-руску – мае для гэтага ўсе магчымасці. Дзе тут праблема?

Увогуле, у гэтай справе мне імпануе пазіцыя архіепіскапа Гродзенскага і Ваўкавыскага Арцемія: *"Калі прыходзілі захопнікі на нашу зямлю, яны найперш знішчалі храмы і мову. Без веры і мовы чалавек ператвараецца ў жывёліну, якою лёгка кіраваць. Таму вельмі важна, каб гучалі пропаведзі па-беларуску. Не падабаецца – не слухай, ідзі ў іншы храм. У Гродне ёсць старажытная Каложа – хай там гучыць беларуская мова. Ёсць храм Усіх Беларускіх Святых – сам Бог наказаў там дзень і ноч на роднай мове маліцца. Кафедральны сабор быў заснаваны вайскоўцамі – хай ён застаецца такім, якім быў, каб і для тых, хто да нас прыехаў, там было ўсё зразумела. Царква – жывы арганізм, і гэтым жывым арганізмам трэба акуратна і ўмела карыстацца"* ("Народная Воля" за 6 красавіка 2018 года). Мудрыя словы высакадастойнага архірэя!

"Румолу" і яго крамлёўскім апекунам Беларуская праваслаўная царква бачыцца крэпасцю, са сцен і вежаў якой павінны вяшчаць глашатаі "русского мира". Дзесьці, трэба з жалем прызнаць, нешта падобнае і адбылося. Але царква не павінна ператварацца ў прыдатак палітычнай сістэмы, у яе іншыя памкненні і прыярытэты. У тым ліку – моўныя.

Чамусьці ніхто не абураецца і не пратэстуе, калі ў польскіх праваслаўных храмах гучыць польская мова, у чэшскіх – чэшская, у балгарскіх – балгарская, у сербскіх – сербская, у грузінскіх – грузінская, ва ўкраінскіх – украінская. Чаму ж беларускае праваслаўе ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь мусіць быць спрэс рускамоўным?

Не ведаю, як зрэагуе Патрыярх Кірыл на зварот мінскага "румолаўца", які ў сацыяльных сетках саманазываецца яшчэ і "нёманскім казаком". На казаку няма знаку – гуляла спрадвеку на нашых землях прынесеная з чужыны прыказка. На "нёманскім", аднак, знак ёсць – і гэта знак імперскай агрэсіі, скіраваны супраць сваіх жа братоў па веры.

Якім я, таксама ж праваслаўны, хачу нагадаць духаўзнёслыя словы з Новага Запавету: "Дык стойце ж у свабодзе, якую даў нам Хрыстос, і не схіляйцеся зноў пад ярмо рабства" (Пасланне да Галатаў, 5:1).

ПОЛИТКУХНЯ

## Николай КОЗЛОВ, председатель Минской городской организации ОГП:

# «Во властных, силовых структурах много желающих развалить партию»

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Но вся ее деятельность в качестве депутата Палаты представителей мало указывает на ее оппозиционность. Это осторожная имитация оппозиционности. В ее действиях я не вижу ни смелости, ни честности, ни последовательности. И то, как Анна носила на заседания парламента значок – сначала бело-красно-белый, потом рядом появился красно-зеленый, а потом только он и остался на груди, – это пример трансформации взглядов человека, который оказался в тех реалиях. По этим значкам, мне кажется, можно судить о твердости ее убеждений.

**– А разве не Анна Канопацкая продвигала поправки в Избирательный кодекс? Сейчас она занята законопроектом об использовании и охране бело-красно-белого флага, который планирует передать на рассмотрение в Палату представителей. Из ее страницы в соцсетях мы узнаем о том, что происходит в парламенте.**

– Давайте определимся в понятиях. Что значит продвигать? Взять законопроект, который подготовили специалисты – представители демсил, и в лучшем случае отправить на рассмотрение Ермошиной или еще куда-нибудь, терпеливо ожидая вежливого отказа? Так это и я могу сделать, не являясь депутатом.

Канопацкая имеет уникальную возможность говорить о самых главных проблемах страны с трибуны парламента! Как депутат она может сделать гораздо больше, чем сложить законопроект в конверт и отправить адресатам. Она же считает себя политиком! Будь она настоящим депутатом, она постоянно заявляла бы о том, что страна нуждается в честных выборах, она лоббировала бы интересы своих избирателей!

А вы помните, о чем спросил Александр Лукашенко Анну Канопацкую в кулуарах парламента? О ремонте в Овальном зале! Эта ситуация, на мой взгляд, говорит о многом. Это оценка ее оппозиционности! Лукашенко спросил Канопацкую не о политике, не о поправках в Избирательный кодекс, не о партии, а о ремонте в Овальном зале! И ее это даже не возмутило!

А то, что ее это не возмутило, возмутило меня как члена ОГП! Как и возмутила ее непоследовательность после парламентских выборов. Тогда было много вопросов о том, как был получен Анной Канопацкой депутатский мандат. Она баллотировалась на том же округе, что и Татьяна Короткевич, и обещала обратиться с заявлением в Генпрокуратуру по поводу нарушений, которые зафиксировали в их округе наблюдатели. Своих обязательств она не выполнила. На мой взгляд, это совсем не те качества, которые должны быть присущи лидеру. Деятельность Анны Канопацкой вызывает у меня только разочарование.

**– То есть вы не хотите видеть ее лидером ОГП?**

– Если честно, мне вообще сложно понять, какие мотивы у Анны Канопацкой выдвигаться на пост председателя партии. Я наблюдал за ней, когда она была председателем Минской городской организации ОГП. Я видел, что партия ее не интересует.

Мне не совсем понятны ее шаги по созданию движения «Вперед, Беларусь!»: то она отмежевывается от ОГП, то она с нами. Мое личное мнение: все это блажь. Партия – это гораздо более сложный организм, чем представляет себе Анна. Я уверен, она не понимает, какие вызовы и задачи стоят перед партией. На мой взгляд, по своим морально-деловым качествам она не способна быть лидером ОГП. Лидером оппозиционной партии.

**– Если вернуться к партийным делам… Дмитрий Ковалгин обвинял Лебедько в том, что он собрал вокруг себя актив, которому хорошо платит, и они создают ему положительный имидж. У партийцев действительно высокие зарплаты? Вы, например, как лидер Минской организации получаете зарплату?**

– Странно, мы все время возвращаемся к глупостям, сказанным Ковалгиным…

Нет, я не получаю зарплату. У нас есть должности, которые оплачиваются, это офисные работники. Партия должна функционировать, и некоторые лица к исполнению своих обязанностей должны относиться именно как к работе. И, я вам скажу, это очень напряженный труд. Я бы, например, не хотел заменить никого из них. А какие суммы они получают? Честно говоря, никогда не интересовался.

Все эти разговоры о высоких зарплатах, на мой взгляд, просто подлость. Тем более что говорит об этом человек, который работал в офисе, но не выдержал нагрузок, режима работы и ушел оттуда.

**– Николай Георгиевич, можно ли сегодня предположить, что получит ОГП в случае избрания нового председателя?**

– Я очень надеюсь, что традиции партии – преемственность, идеалы, принципы – сохранятся, и в то же время будет что-то новое. В любом коллективе приход нового лидера всегда что-то меняет.

**– А сегодня сколько членов в ОГП?**

– Порядка трех с половиной тысяч. Наша партия – одна из самых массовых и самая активная. Конечно, это списочный состав. Активных членов меньше, потому что в тех условиях, в которых мы сегодня живем, сложно проявлять себя. Быть активным мешает простое чувство самосохранения. Для некоторых вступить в оппозиционную партию – это уже поступок. Тем не менее в партию постоянно приходят новые люди. Не скажу, что массово, но, например, мы на совете нашей городской организации каждый раз принимаем 3–4 человека. В период избирательных кампаний желающих вступить в ОГП еще больше…

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ПРЫНЦЫПОВА!

## Ігар БАРЫСАЎ:

# «Калі ўлады хочуць, каб развівалася партыйнае будаўніцтва…»



*Кіраўнік Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) выступае за тое, каб іх арганізацыя мела дзяржаўнае фінансаванне.*

Нагадаем, што **Ігар Барысаў** знаходзіцца на пасадзе кіраўніка БСДП (Грамада) крыху больш за два месяцы.

*"Калі пачаў разбірацца з партыйнай гаспадаркай, то зразумеў, што для нармальнага функцыянавання партыі не хапае фінансавых магчымасцяў*, – распавёў "Народнай Волі" новы лідар. – *Таму даводзіцца сябе вельмі моцна абмяжоўваць. Я ўвогуле лічу, што і ў нашай партыі, і ў астатніх павінна быць дзяржаўнае фінансаванне. Толькі тады можна казаць пра наяўнасць партыйнага апарату, які кожны дзень займаўся б арганізацыйнай працай, рэалізоўваў бы намечаныя планы, актыўна рыхтаваўся да выбарчых кампаній. На жаль, пакуль мы працуем як аматары...".*

Паводле слоў палітыка, у любой цывілізаванай дзяржаве павінны існаваць арганізацыі самых розных форм – і апазіцыйныя, і неапазіцыйныя.

*"Калі падтрымліваць адных, а другім даваць ад варот паварот, то пра якое будаўніцтва партыйнай сістэмы можна гаварыць?* – заўважае Ігар Барысаў. – *Думаю, уладам трэба ўжо даўно перастаць шукаць ворагаў з ліку розных недзяржаўных структур, у тым ліку і апазіцыйных партый. Трэба, наадварот, нейкім чынам інтэграваць іх у палітычную сістэму Беларусі. Вось у такім выпадку мы можам казаць пра агульную згоду, кансэнсус і нацыянальную палітыку".*

Палітык дадае, што важна таксама разумець: калі дзяржава пачне фінансаваць палітычныя партыі, то гэта не беларускі кіраўнік са сваёй кішэні будзе даваць грошы, а падаткаплацельшчыкі прафінансуюць плюралізм ідэй.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Каб грошы цэлымі былі, жанкам купляйце «Жыгулі»

У Мінску на праспекце Незалежнасці дзяўчына, кіруючы "Мерседэсам", сутыкнулася з "Хондай", паспрабавала ад'ехаць назад, аднак, пераблытаўшы педалі, пратараніла яшчэ і "Аўдзі".

Не сакрэт, што да халеры
Вельмі бедных сярод нас.
Толькі ёсць і мільянеры.
Акурат такі і Стас.
Не жуе ён хлеб-мякіну,
Стас – удачлівы дзялок.
(Аддадзім яму даніну:
Не дурны ў мужчыны клёк.)
На яго рахунку ў банку
Не адзін ляжыць мільён…
Стас завёў сабе каханку,
І дзяўчыну "топча" ён.
У яго абрыдлай жонкі
Сто кіло і цэлюліт,
А ў каханкі станік тонкі
Дый наогул пекны від,
Выглядае, быццам Ева…
І таму зусім не ўздзіў,
Што пайшоў дзялок "налева",
З маладою заблудзіў.
Для яе жыццё – забава,
Бо бурліць у дзеўкі кроў.
І са Стасам ёй цікава:
Мае грошай – будзь здароў!
Шчодра траціць ён даляры
І пры гэтым не бандыт,
Возіць дзеўку на Канары,
Не гаворачы пра Крыт.
Дык усё ў дзяўчыны ў глянцы,
Проста казкай стала быль!
Натуральна, Стас каханцы
Падарыў аўтамабіль.
Ён каштуе не "капейкі":
У кішэнь дзялок залез
І купіў не "гольфік" нейкі,
А шыкоўны "Мерседэс".
Хай каханка ездзіць "з понтам"!
І, бадай, даўмелі вы,
Што сваёй сяброўцы спонсар
Заадно купіў правы.
Ну які з яе кіроўца?
Быццам куля, што з га..на.
Лепш цягалі б на вяроўцы…
Ды паехала яна!
Як ракету, дзеўка часам
Разганяла "Мерседэс",
Хоць і вуліца, і траса
Для яе – як цёмны лес.
Па праспекце, што ў сталіцы,
Гнала раз свайго "каня".
За рулямі маладзіцы
Ёй, лічыла, не раўня.
Пратараніла спачатку
Маладзіца легкавік.
"Мерседэса" нос – усмятку,
Ён у "Хонду" ўлез, як цвік.
Каб дастаць той "нос", дзяўчына
Даць рашыла задні ход.
І рванулася машына,
Як на ўзлёце самалёт,
Бо ўмудрылася ноздрыя
Пераблытаць педалі.
Чорны быў мужык, як хмара,
Матам крыў яе, калі
Уляцела ў іншамарку
І памяла ў ёй крыло.
(Дзў бы наваt і па карку,
Ды народу шмат было.)
І памяты ўвесь, вядома,
Сам шыкоўны "Мерседэс":
Як гара металалому
Можа вызваць інтарэс…
Ды на ўласным даляглядзе
Дзеўка ўсё ж не бачыць хмар:
Заўтра, ясна, перасядзе
На "Ролс-ройс" ці "Ягуар".

* * *

Штосьжанкам дарылі й продкі –
Так было спакон вякоў.
Ды хачу звярнуцца ўсё-ткі
Да багатых мужыкоў:
Каб такія нечаканкі
Разарыць вас не змаглі,
Набывайце для каханкі
(Дый для жонкі) "Жыгулі"!

РОЗДУМ

# Дзядзька ў Вільнюсе

Калі б абудзіць коласаўскага героя "Новай зямлі" і спытаць, ці захацеў бы ён зараз з'ездзіць у Вільню, то не сумняваюся, што ён вельмі доўга дапытваўся б, дзе гэты горад, ці далёка знаходзіцца. Падобнае пытанне ў мяне ўзнікла таму, што, бываючы ў сённяшняй Літве, я заўважыў: літоўцы называюць нашы беларускія гарады адпаведна сваім тапанімічным правілам. Глядзіце: ходзіць аўтобус Вільнюс – Мінскас. А Гродна яны наогул называюць Гардзінасам. Я не збіраюся гэтым папракаць літоўцаў ці ўказваць на неправамернасць іх дзеянняў. Такога ў маіх думках нават блізка няма. Гэта іх справа і іх права. А вось у нас, беларусаў, амаль адсутнічае нацыянальны падыход да айчыннай тапанімікі.

Літоўскі Вільнюс для нас, беларусаў, стагоддзямі быў Вільняй. Лічу непавагай да нашых продкаў вымаўляць назву горада, які стагоддзямі лічыўся палітычным, эканамічным і культурным цэнтрам беларускіх земляў, на літоўскі манер. Вільня для нас была і павінна быць Вільняй. Дарэчы, палякі сёння афіцыйна і неафіцыйна амаль што не называюць літоўскую сталіцу Вільнюсам. У Варшаве і сёння называюць адзін з чыгуначных вакзалаў Віленскім.

А колькі ў нашых гарадах ёсць вуліц з назвамі "Віленская"? Я сам у 1955–1959 гадах у горадзе Баранавічы пражываў на вуліцы Віленскай. Потым яе перайменавалі ў Гагарына. Ну што тут скажаш? Гагарын – герой космасу. А баранавіцкая вуліца вяла толькі ў накірунку горада Вільні.

Хачу адзначыць, што не ўсюды нашы мясцовыя ўлады слепа ідуць за літоўскімі назвамі. Напрыклад, у Гродне на паказальніках напрамку пішацца не "Друскенінкай", а "Друскенікі". Бо, сапраўды, мясцовыя жахары заўсёды па-свойму называлі гэты населены пункт і не каяліся.

Упэўнены, тапанімічныя перайменаванні не пакрыўдзяць літоўцаў. Мы нічога ў іх не аднімаем. Вільня страчана для беларусаў назаўсёды. А населены пункты хай кожны называе па-свойму. Як гэта найбольш адпавядае нацыянальна-гістарычным каштоўнасцям.

Аб тым, што тапанімічнае абнаўленне, тапанімічная рэканструкцыя з'яўляецца вельмі наспелай і актуальнай задачай для незалежнай Беларусі, пішуць беларускія навукоўцы, такія як С.Басік, П.Лемцюгова, В.Жучкевіч. З іх гледзішча, патрэбна афіцыйнае ўвядзенне ва ўжыванне мясцовых варыянтаў тапонімаў. Напрыклад, да гэтага часу няма аднаяначнасці ў афіцыйнай назве такіх райцэнтраў, як Міёры (ці Мёры), Лiозна (ці Лёзна), Брэст нярэдка гучыць як Бярэсце, Гродна – як Гародня. Што тычыцца Брэста, я прапанаваў бы яму назву "Брэст-Літоўск", таксама як і Высока-Літоўск. Гэта падкрэслівала б гістарычную повязь нашых гарадоў з нашай векавечнай палітычнай калыскай – Вялікім Княствам Літоўскім.

Гэта не значыць, што нацыянальна-тапанімічнае абліччa трэба мяняць аднамомантна. Трэба паступова пазбаўляцца тых найменняў, тых імён, якія яўна не ўпісваюцца ў гісторыю нашай незалежнай дзяржавы, яе гісторыка-культурныя каштоўнасці. Ужо і раней, а асабліва ў апошні год стала ясна, што такія дзеячы, як Мяснікоў, Кнорын, Ландар і ім падобныя швондэры, былі ярымі працаўнікамі хоць самай прымітыўнай формы беларускай дзяржаўнасці. Дык навошта іх захоўваць у памяці горада і людзей?

Пішу: паступова пазбаўляцца. А ў галаве ўзнікаюць гістарычныя параўнанні. Тыя ж літоўцы. Як толькі нацыянальны рух у іх набыў сілу, яны сталі імгненна перайменоўваць і перакручваць назвы на летувіскі манер. Умела змянілі змест назвы "Літва". І гістарычную Літву сталі прэзентаваць як папярэдніка сучаснай этнаграфічнай Літвы. Не кажучы ўжо пра тое, што перайменаваны былі нават вядомыя гістарычныя асобы: Міндоўг стаў Міндаўгасам, Гедымін – Гедымінасам, Вітаўт – Вітаўтасам, а Канстанцін Каліноўскага называюць Костасам Каліноўскасам. На якой падставе? А ні на якай. І гістарычных спасылак на такія імёны не сустрэнеш. З такой жа нагоды сёння можна назваць Лукашэнку – Лукашэнкасам, Пуціна – Пуцінасам, Трампа – Трампасам, а Меркель – Меркелевічэне. Азначаючы гэтыя факты, я не хачу абуджаць якія-небудзь дыскусіі з літоўцамі. Наадварот, за тое, што яны імкліва і без аглядак узбагацілі сваю нацыянальна-гістарычную ідэнтычнасць, наваt зайздрошчу як беларус.

Імклівымі і безагляднымі ў перайменаванні гарадоў і населеных пунктаў былі і бальшавікі. Не паспелі яшчэ іх лідары даказаць масам, што іх чакае "светлая будучыня", яшчэ панавалі ўсюды холад і голад, а бальшавікі ўжо пачалі ўганароўваць свае імёны ў назвах гарадоў. Так у 1918 годзе пасёлак Івашчанкава быў перайменаваны ў Троцк (пазней стаў Чапаеўскам). З 1923-га па 1929 год існаваў горад Троцк і ў Ленінградскай вобласці – раней гэта была Гатчына. Агульнавядома, што Петраград быў перайменаваны ў Ленінград праз пяць дзён пасля смерці Леніна. У 1924 годзе Екацярынабург перайменавалі ў Свярдлоўск, у 1925 годзе Царыцын – у Сталінград, Стаўрапаль у 1935 годзе – у Варашылаўск. У 1930 годзе пасёлак Ташкі стаў насіць назву Дзяржынск. Найбольш пашанцавала Калініну. Яго імем назвалі некалькі буйных гарадоў, пасёлкаў, незлічоную колькасць вуліц і плошчаў. Гэта тэндэнцыя існавала ўсю гісторыю СССР. Кожны горад імкнуўся, каб у ім былі вуліцы Леніна, Сталіна, іншых кіраўнікоў. Каб былі вуліцы, назвы якіх падкрэслівалі б ідэалы "шчаслівай камуністычнай будучыні".

Улады савецкага перыяду ў Беларусі праводзілі палітыку замены "неблагазвучных" назваў беларускіх паселішчаў на іншыя, наваt процілеглыя па значэнні. Прапойск стаў Слаўгарадам, Дрыса – Верхнядзвінскам, Ліхадзея – Прагрэсам; Замагілле – Рассветам, Пукава – Камсамольскам і г.д. Можа быць, у гэтым і быў сэнс. Але пераназванне трэба было рабіць у беларускім гучанні. А не так, як, напрыклад, пасёлак Янтарны ў Гомельскім раёне. Па-беларуску ён павінен быў называцца Бурштынавым.

Нядаўна пачытаў, што наша Тапанімічная камісія не толькі не падтрымлівае рускамоўныя назвы беларускіх паселішчаў, а выступае супраць перакладу геаграфічных назваў з беларускага на рускі. Згодна з атрыманай мной інфармацыяй, яшчэ ў верасні 2013 года на пасяджэнні Тапанімічнай камісіі абмяркоўвалася пытанне аб захаванні транслітарацыі геаграфічных назваў з беларускай мовы на расійскую і ўнясенні змяненняў у Закон РБ "Аб назвах геаграфічных аб'ектаў". Усе члены камісіі выказаліся за захаванне транслітарацыі, як гэта прынята і цяпер у законе.

Транслітарацыя – дакладная перадача знакаў аднаго пісьменства знакамі іншага пісьменства. Гэта значыць, калі, да прыкладу, па-беларуску мы пішам "вуліца Чыгуначная", то па-руску яе назва ў транслітарацыі будзе афармляцца па правілах рускай арфаграфіі – "Чигуночная", а не прамым перакладам – "Железнодорожная". Калі дапусціць магчымасць прамога перакладу назвы вуліцы, то фактычна з'явіцца ўжо іншая назва, іншы аб'ект. Таму камісія прапанавала захоўваць у Беларусі дзейныя нормы Закона "Аб назвах геаграфічных аб'ектаў", якімі замацавана транслітарацыя, а не прамы пераклад.

Такія правілы наданя найменняў адпавядаюць міжнародным стандартам. І Беларусь як член Групы экспертаў ААН прытрымліваецца гэтых стандартаў. Прынцып транслітарацыі прайшоў апрабацыю, былі выпушчаны нарматыўныя даведнікі па назвах населеных пунктаў Беларусі. Міжнародная супольнасць гэтыя даведнікі ацаніла і прыняла. І ўсе члены тапанімічнай камісіі за гэта прагаласавалі аднагалосна.

Прапановы па зменах у закон зыходзяць ад прадстаўнікоў мясцовых органаў улады. І яны грунтуюцца на тым, што ў Беларусі дзейнічае двухмоўе, а таму яны прапануюць прысвойваць назвы на беларускай мове, але каб быў таксама і варыянт на рускай, створаны не спосабам транслітарацыі, а прамым перакладам: напрыклад, вуліца Кастрычніцкая і Октябрьская, як гэта было да сакавіка 2011 года, да ўступлення ў сілу закона. Але ў гэтым выпадку ўласныя назвы трапляюць пад агульныя правілы перакладу звычайных слоў. А між тым імёны ўласныя, згодна з сусветным стандартам, павінны чытацца на ўсіх мовах свету аднолькава, а не перакладацца на іншую мову, і мы не павінны выбівацца з агульнасусветных стандартаў і правілаў.

Гэта пазіцыя, паводле майго назірання, не вельмі ўваходзіць у практыку. Хаця ў часы правядзення ў Беларусі чэмпіянату свету па хакеі было прыемна бачыць, што назвы вуліц і ўстаноў у Мінску былі даны лацінскімі літарамі ў беларускай транслітарацыі.

Так, тапаніміка Беларусі празмерна загрувашчана іншаземнымі, гістарычна зніклымі імёнамі і назвамі, якія ўжо не адпавядаюць рэаліям сучаснай Беларусі. Думаецца, што для гэтага ўладным структурам трэба распрацаваць спецыяльную праграму. Ведаю, што гэта цяжка, асабліва калі ўспліва імя Леніна. Мяркую, што яго імя можа застацца ў тапаніміцы Беларусі. Ён усё-такі стаяў у вытокаў і падтрымліваў палітыку стварэння адной з гістарычных формаў беларускай дзяржаўнасці – БССР. Але пакідаць такую тапанімічную масавасць таксама немэтазгодна. Сярод моладзі ўжо рэдка хто дакладна скажа, хто такі Ленін. Новая эпоха нарадзіла новыя імёны, з якімі людзі звязваюць сваё жыццё і думкі.

Між іншым, з шасці абласных цэнтраў і г.Бабруйска, дзе ёсць падзел на раёны, толькі ў Гомелі няма Ленінскага раёна. Асаблівасці росту і разбудовы гарадоў ёсць тое, што яны паглынаюць малыя населеныя пункты. І добра было б, каб мінскія гарадскія раёны насілі, напрыклад, такія назвы: Нядзвешынска-Курасоўшчынскі, Дабрамысленскі, Сцяпянскі або Першамайска-Зялёналужскі, Серабранскі, Брэцкі, Гродзенскі і таму падобнае.

І яшчэ ў нашы часы даволі частай стала з'ява апусцення, знікнення вёсак. Вельмі добра было б, каб назвы гэтых вёсак захоўваліся ў назвах новых вуліц гарадоў. Асабліва вёсак, якія зніклі з-за Чарнобыльскай катастрофы. Адзін прыклад ведаю. У Чэрыкаўскім раёне Магілёўскай вобласці была даволі вялікая вёска Веприн. Цяпер яе няма. Знеслі. Але назва "Вепринскі сельсавет" засталася. Відаць, абласное кіраўніцтва прыняло правільнае рашэнне. У Мінску таксама нямала вуліц, якія носяць назвы ранейшых вёсак.

Гэта добры пачатак. Але патрэбнасць у тапанімічных зменах вельмі актуальная. Незалежнай дзяржаве патрэбна адпаведная нацыянальная тапаніміка. Гэта адпавядае купалаўскаму закліку, каб беларусы, як і іншыя народы, сапраўды малі людзмі звацца.

**Сцяпан СОКАЛ,**
**прафесар, доктар юрыдычных навук.**
*Мінск.*

РЕЗОНАНС

## Не быть бюрократом



Уважаемая редакция!

С удовольствием читаю каждый номер газеты. Спасибо, что печатаете и мои материалы.

В одном из номеров прочла статью Александра Градюшко об ответственности пресс-секретарей различных организаций. Согласна, что уровень этой ответственности у многих нулевой. Из собственного опыта знаю, что многие из них не понимают сути своей работы, не понимают того, что от них иногда зависит судьба человека.

Должность пресс-секретаря или помощника руководителя того или иного ведомства – это ведь чиновничья должность. И здесь очень важную роль играет отношение к людям, к их проблемам. Можно сухо, казенно ответить человеку, а можно уважительно, тепло поговорить, выяснив все обстоятельства, и по возможности на своем уровне помочь решить вопрос, с которым обратился посетитель.

Расскажу историю, произошедшую когда-то с моим отцом. Он ушел в партизаны на своей родной Могилевщине в 16 лет. Со временем его бригада, соединившись с войсками 348-й стрелковой дивизии, взяла направление на Запад. В Польше, в районе г.Белостока, в возрасте 19 лет отец был тяжело ранен. Ему ампутировали левую руку и отправили самолетом долечиваться в Москву.

Окрепнув, отец поступил в Московское художественно-промышленное училище имени Строганова. Для прописки в общежитии нужен был паспорт. Молодой начальник паспортного стола, изучив партизанскую справку, а также справку о ранении на фронте и ходатайство ректора училища о прописке, спросил: «В оккупации был?» Такой вопрос был неслучаен, к выходцам из БССР относились настороженно. А тут еще и паспорта нет. «Значит, в срок 48 часов надо покинуть Москву. В прописке отказать», – в категорической форме заявил бездушный чиновник.

Узнав эту историю, однокурсники отца посоветовали ему не сдаваться и идти в городской паспортный стол, организовав группу поддержки.

В кабинете женщина в форме майора попросила показать партизанские и фронтовые справки. Услышав папин рассказ о том, как он сражался с оккупантами, она улыбнулась и сказала: «Белорусы – чудесные люди. Я в этом убеждалась не раз. Учись, сынок!» – и на заявление отца наложила резолюцию: «Прописать Барановского В.П. в общежитии. Выдать ему как орденоносцу бессрочный паспорт».

Этот паспорт хранится у нас до сих пор как символ победы над бюрократами.

**Наталья АЛЕЙНИКОВА,**
**жительница Минска.**

НЕЗАБЫВАЕМОЕ

## В том «раю» сало было деликатесом!

В передачах Белорусского телевидения часто можно услышать, а на страницах государственных газет прочитать, как хорошо жилось при советской власти. На самом деле ту жизнь никак нельзя назвать хорошей. О том, как тогда жилось рядовым белорусам, я хочу рассказать на примере семьи моей жены – Нины Александровны Красовской, уроженки деревни Шанторовщина Слуцкого района. Ее прадед, проживавший в деревне Колесичи на Копыльщине, купил в Шанторовщине землю, построил дом, имел несколько лошадей и коров, вел хозяйство и был по тогдашним меркам зажиточным хозяином.

Но грянула революция, бедность была возведена в достоинство. Во всех анкетах безопаснее всего было писать "происхождением из бедняков". И вот эти бедняки положили глаз на прадедово хозяйство. Прадед к тому времени уже умер, хозяином в доме был его сын. В один из дней все хозяйство было конфисковано, дом разобран и увезен, а семья была вынуждена поселиться в истопке (сарайчике для картошки). Вся "вина" Красовских была в том, что все в ней работали от зари до зари.

Вот так начинала свой путь к "светлому будущему" семья моего тестя Александра Денисовича Красовского (родился в 1907-м).

Началась война. Тесть ушел на фронт, воевал, вернулся, работал в колхозе. Его семья насчитывала восемь человек, в том числе пятеро детей да старушка- мать главы семьи. Жили – даже не бедно, а в настоящей нищете. В колхозе ничего не платили, деньги на хлеб зарабатывали продажей летом ягод, а зимой дров, которые тесть заготавливал в лесу.

Раз в год приходила работница сельсовета, уполномоченная по налогам. "Ну что, Красовский, пора налоги сдавать – яйца и другие продукты". А по лавкам сидели семь голодных ртов, но это мало кого интересовало. Основной крестьянской пищей были картошка, капуста, щавель и огурцы. А когда ставили на стол толченую картошку, заправленную салом, то дети выбирали из нее кусочки сала и хвастались, у кого больше. Это был деликатес!

Шли годы, жизнь легче не становилась. Мою будущую жену взяла к себе тетя, проживавшая в деревне Бокшицы недалеко от Слуцка. В теткиной семье девочка уже не знала, что такое голод, хотя приходилось много работать, помогая по хозяйству. Благодаря добрым людям она смогла окончить среднюю школу и мединститут. Но о советском "рае" в нашей семье всегда вспоминают с неохотой.

**Валерий ГОЛОТИК.**
*г.Слуцк.*

БЕЗЗАКОНИЕ

## Почему я должен платить за неоказанные услуги?

Много хлопот приносит предприятиям ЖКХ сбор бытовых отходов у населения, проживающего в сельской местности. Но от решения проблемы не уйти. Вот и администрация Бобруйского района решила оказывать эту услугу тем, кто проживает в деревнях. Но, к сожалению, подход к делу не совсем законный.

Так, несколько лет назад были заключены договоры со многими жителями деревни Слобода Богушовка, а также с так называемыми дачниками, которые поселяются только на летний период (апрель–октябрь). Не понятно, почему два последних года я, тот самый дачник, стал получать счета по оплате этой услуги как за летний, так и за зимний период. Но ведь в зимнее время я там не нахожусь и соответственно никаких бытовых отходов быть не может. Зимой оплачиваю их сбор по месту постоянного жительства.

На мой вопрос, почему я должен оплачивать услугу, которой не пользуюсь, заместитель председателя райисполкома, курирующий ЖКХ, сказала, что их организация несет расходы круглый год и, мол, нужно их покрывать. Согласитесь, чисто бюрократический подход.




Письменно обратился в Могилевский облисполком, прокуратуру, Госконтроль. Отовсюду, как под копирку, примерно такой ответ: «С вами заключен договор на вывоз коммунальных отходов, и для перерасчета оплаты нет оснований». А что договор заключен на летний период – вежливо пропущено.

«Мусорный» вопрос у населения возник давно. Как можно требовать оплату услуги, которой человек не пользуется? Полнейшее беззаконие!

**В.П.САПЕГА, пенсионер, 73 года.**
*г.Бобруйск.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## «У сувязі з учыненнем правіны…»

*У мінулым нумары "Народнай Волі" з'явілася інфармацыя, што звольнены з пасады начальнік РАУС пасёлка Акцябрскі Гомельскай вобласці 41-гадовы* ***Генадзь Маджара.*** *Ён як быццам бы ўчыніў п'яны дэбош у мінскім кафэ, калі знаходзіўся ў сталіцы на нейкіх курсах. Прэс-служба УУС Гомельскага аблвыканкама абяцала карэспандэнту паведаміць, якія ж насамрэч прычыны звальнення міліцыянера з адказнай пасады. Ці атрымала рэдакцыя адказ?*

**І.Коваль.**
**Гомельская вобласць.**

Так, прыйшоў адказ за подпісам намесніка начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкама **Віталія Котчанкі.** У ім сцвярджаецца, што *"Маджара Г.В 04.05.2018 года быў звольнены з органаў унутраных спраў у сувязі з учыненнем правіны, прадугледжаный кантрактам аб службе ў якасці падставы для яго датэрміновага скасавання або спынення яго дзеяння".*

Які канкрэтна ўчынак здзейсніў міліцыйскі начальнік – з адказу даведацца аб гэтым немагчыма, хаця ў сваім звароце мы прасілі пацвердзіць ці абвергнуць інфармацыю, якая з'явілася ў некаторых СМІ, накont паводзін Маджары. Ці не ўмацоўваюць службовыя асобы УУС Гомельскага аблвыканкама гэтай таямнічасцю падазрэнні ў тым, што тая інфармацыя адпавядае рэчаіснасці?

У лісце прапануюцца *"па ўсіх іншых пытаннях асабістага характару звярнуцца непасрэдна да Маджары Г.В.".* Пагадзіцеся, нейкі парадокс: міліцэйскія начальнікі даваряюць чалавеку, які, па іх меркаванні, не можа працаваць у сістэме, каментаваць правіну, за якую ён быў звольнены.

КАНФЛІКТ

# Страсці ў «Зялёным Бары»

*Зваротам да медыкаў і ў міліцыю закончыўся для пенсіянера Анатоля Максімава ўдзел у мерапрыемствах па выбарах старшыні таварыства ўласнікаў "Квартал Зялёны Бор" Бараўлянскага сельсавета Мінскага раёна.*

Падчас выбараў старшыні таварыства была створана ініцыятыўная група, якая патрабавала празрыстасці правядзення выбарчых працэдур. Былі прэтэнзіі і да працы дзеючага кіраўніка таварыства **Аляксандра Гопшы**.

*"Мы хацелі толькі аднаго – каб выбары адпавядалі ўсім законным працэдурам*, – распавядае **Анатоль Максімаў.** *– Звярнуліся ў Мінскі райвыканкам, там нам патлумачылі, як усё павінна адбывацца па законе, а на наступны дзень пайшлі на выбарчы ўчастак, каб даведацца пра тое, як ідуць выбары. Там прад'явілі свае аргументы праўленню таварыства і яго старшыні, указалі пры гэтым, што выбарчая кампанія ідзе з грубымі парушэннямі Жыллёвага кодэкса. Аляксандр Гопша адмовіўся з намі гэта абмяркоўваць, а я вырашыў скласці акт аб парушэннях, каб гэты факт засведчыць пісьмова".*

Са слоў пенсіянера, у гэты момант старшыня таварыства, каб адабраць акт, прымяніў да яго фізічную сілу.

*"Пасля гэтага я звярнуўся ў Бараўлянскую паліклініку, медыкі засведчылі траўмы і паведамілі ў міліцыю,* – працягвае Анатоль Сяргеевіч. *– Пазней напісаў заяву ў Бараўлянскі аддзел міліцыі Мінскага РУУС, у якой падрабязна апісаў тую сітуацыю, якая склалася. Я інвалід 2-й групы і не збіраюся цярпець такога стаўлення асабіста да сябе і ўвогуле да таго, што адбываецца ў таварыстве. Дарэчы, некаторыя сябры таварыства звярнуліся да старшыні Мінскага райвыканкама. Яны папрасілі не зацвярджаць А.Гопшу на пасадзе старшыні ТУ "Квартал Зялёны Бор", пакуль кампетэнтныя органы не правядуць расследаванне яго дзейнасці і канфліктнай сітуацыі, якая склалася на выбарчым участку".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

УСМЕШКА МАСТАКА

# «У яго будзе ўсё, у чым ён будзе мець патрэбу»




Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

Легендарны аргенцінскі футбаліст **Дыега Марадона** падпісаў кантракт з брэсцкім "Дынама". Пасля чэмпіянату свету, які пройдзе ў Расіі, ён стане старшынёй праўлення беларускага клуба.

У Брэсце для аргенцінца ўжо шукаюць дом. Ён абавязкова павінен быць з трэнажорнай залай. Брэсцкае "Дынама" праз Twitter таксама паведаміла, што шукае для Марадоны кіроўцу і прыбіральшчыцу з веданнем іспанскай мовы.

*"У яго будзе ўсё, у чым ён будзе мець патрэбу"*, – заявіла прэс-сакратар брэсцкага клуба **Вольга Хіжынкова**.

Якую зарплату атрымае Марадона – не вядома. *"Дэталі кантракта не разгалошваюцца"*, – паведаміла Хіжынкова. Таксама яна не ўнесла яснасці і наконт таго, ці стане Марадона адным з уласнікаў клуба і ці набыў ён 20% акцый брэсцкага "Дынама".

ЗВАНЫЙ ГОСТЬ

# И мозг, и тело требуют ЕЖЕДНЕВНОГО кнута

Молодой, многообещающий, перспективный… Так говорят о хореографе Сергее Микеле (ученике народного артиста Валентина Елизарьева), и лестные эпитеты, думаю, ох как трут сейчас шею начинающему балетмейстеру. Большие ожидания, конечно, льстят, но ведь и как напрягают!..

Хотя первый балет Сергея Микеля – «Вишневый сад», поставленный в прошлом году на сцене Музыкального театра (студенту-выпускнику дали профессиональную сцену, заметьте), – весьма благосклонно был встречен столичной публикой. А профессионалами вообще оценен на «отлично», так как являлся одновременно дипломной работой выпускника Академии музыки.



Но второй шаг на творческом пути, несомненно, гораздо сложнее, чем первый: теперь скидки долой, все по-взрослому. Для нового балета опять- таки на сцене Музыкального театра Сергей Микель выбрал такой исторический материал, как гибель британского трансатлантического парохода "Титаник". Музыку к балету пишет композитор Олег Ходоско.

Не без скепсиса я начала расспрашивать Сергея о спектакле: после великой голливудщины, после фильма «Титаник» он не боится промахнуться, прежде всего с темой?

**– Конечно, молодой хореограф может об этом только мечтать: по постановке балета в год. Но вы отдаете себе отчет, на какой мегапопулярный сюжет замахнулись?**

– И замахнулись серьезно. Это идея директора театра Александра Евгеньевича Петровича – поставить балет на сюжет гибели «Титаника». Я сначала активно противился, все прошлое лето набрасывал ему собственные альтернативные идеи, но директор настоял на своем. Прошло время, и сегодня я безумно люблю этот проект. Вся наша постановочная группа захвачена работой.

**– Но делать балет по фильму – кому это интересно? Эмоции уже пережиты, пережеваны зрителем.**

– Если по фильму, то это, конечно, заведомо проигрышно. Поэтому наш балет – совсем другая история, хотя в основе, конечно, исторический факт кораблекрушения. Скажу больше: почти каждый персонаж в балете имеет свой реальный прототип. Кстати, на корабле плыла молодая женщина из Могилева.

**– Это известный факт: Женя Дробкина, 24 года, ей удалось спастись.**

– У нас тоже будет счастливый финал.

**– И кто поднимал архивные документы, проделал этот титанический труд?**

– Ваш покорный слуга. Абсолютно все перерыл, перечитал и пересмотрел: документы, фильмы, сериалы. И лишь чуть-чуть пофантазировал, балет – это все-таки театр. Я обожаю постановочный процесс. Обожаю работу с художником, сценографом.

**– Сюжет «Титаника» подразумевает безумную, непозволительную роскошь. А какое финансирование у спектакля? Ваш театр всегда, как правило, довольно стеснен в средствах.**

– Несмотря на это, будут массивные декорации, мы за них боролись. И получили. Богатства мы добавим также и в костюмы. Но, конечно, все будет решено достаточно условно. Так как гибель «Титаника» реальный факт, мы не переносим действие во времени. Не реальность, но – достоверность, эпоха остается. В балете даже будет звучать музыка, которая на самом деле звучала на «Титанике». Достоверно известно, что, когда корабль шел ко дну, оркестр играл вальс «Осень» композитора Арчибальда Джойса, а также церковный гимн XIX века «Ближе, Господь, к тебе». Музыкальные фрагменты из этих мелодий будут звучать в балете.

**– Расскажите, как живет в театре ваш первый балет, ваш «Вишневый сад». Вижу, что после полугодового перерыва спектакль снова регулярно появляется в афише.**

– Да, мой «Сад» вновь расцвел вместе с реальным садом за окном. Перерыв был связан с тем, что балетная труппа ездила на долгосрочные гастроли в Европу. Потом балет пришлось чуть ли не восстанавливать с артистами снова. Признаюсь, я каждый раз теперь смотрю балет из зала или из-за кулис и часто испытываю настоящие муки: «Ну почему я в этом или другом месте сделал так, а не иначе? Ведь можно гораздо интереснее!» Порой ем себя поедом.

**– А вы хотели бы испытывать, так сказать, глубокое удовлетворение?**

– Самодовольство? Упаси Боже! Но самокритика порой выжигает.

– **Артисты балетной труппы, с которой вы работаете в театре, практически одного с вами возраста – ну, пять-шесть лет разницы. Вы умеете настоять на своем? Вы ведь не только танец ставите, вы ведь «ставите» еще поведение молодых людей, которые только что окончили колледж.**

– В труппе, пожалуй, еще существует непонимание того, что между хореографом и артистом должна быть дистанция. Я это списываю на защитную реакцию человека, которая заставляет его стоять в позе нападения. И пока мне с этим сложно что-то сделать. Но…

**– Но ясно, что вы – не деспот. Вы человек молодой, а деспотом становятся гораздо позже.**

– Но приходится быть иногда жестким.

**– А почему, собственно, постановка танца всегда требует повышенного голоса, образно говоря, кнута?**

– Может быть, это стереотип, присущий нашим широтам? Такой подход к обучению складывается еще с колледжа. Был недавно в Европе, мы посещали школы танца: там педагоги и учащиеся общаются друг с другом мягче, уважительнее. При этом подчиненные не переходят грань, умеют держать дистанцию, не наглеть. Но панибратства нет. В общем, есть над чем подумать.

**– Западное общество вообще этим отличается: у них все на своих местах. И вот в чем здесь проблема: в традиции, в ментальности?**

– Да, могу сказать, у нас такая традиция сложилась: тело требует кнута. У нас везде артистов балета гоняют, как коз. И только тогда, считается, будет результат.

**– Вы окончили магистратуру, теперь, знаю, ваш путь лежит в аспирантуру Академии музыки.**

– Есть такое желание, это нужно и полезно для моего будущего. Хотя предстоит огромная работа, через несколько лет надо будет представить полноценное музыковедческое исследование. Но интеллект тоже требует постоянного кнута. И тело, и мозг приходится развивать через большие усилия и преодоления.

**Елена МОЛОЧКО.**
**Фото Сергея АКУЛИЧА.**

МЕРКАВАННІ

# «Калі Марадона будзе банкет ладзіць, няхай пра нас не забудзе…»

*Вядомыя беларускія футбольныя спецыялісты распавялі «Народнай Волі», што яны думаюць з нагоды запрашэння ў Беларусь легендарнага аргенцінца.*



### Вадзім ЖУК, суддзя міжнароднай катэгорыі:

– Калі расцэньваць запрашэнне Марадоны ў брэсцкае "Дынама" як піяр-акцыю, то гэта вельмі моцны ход з боку брэсцкага клуба. Балельшчыкі пойдуць паглядзець на Марадону не толькі на стадыён у Брэсце, але і па ўсёй Беларусі. І проста ўпэўнены, што на дэбютным матчы "Дынама", калі там з'явіцца аргенцінец, будзе поўны аншлаг! Балельшчыкі ж памятаюць Дыега як аднаго з самых лепшых футбалістаў свету. Таму ў плане прыцягнення аматараў футбола на стадыёны – добры ход. А вось як арганізуе аргенцінец працу ў клубе, не бяруся прагназаваць. Вопыт у яго багаты, настаўнікі былі знакамітыя, таму, напэўна, нешта перадасць маладым футбалістам.



### Юрый ПУДЫШАЎ, чэмпіён СССР 1982 года ў складзе мінскага «Дынама»:

– Як кажуць, у багатых свае дзівацтвы. Калі ў спонсараў брэсцкага "Дынама" грошай куры не клююць, то чаму б і не запрасіць Марадону? Брэст дакладна будзе стаяць на вушах, і аргенцінца пацягаюць на руках па абласным цэнтры. Але, мяркую, на гэтым усё і скончыцца. Я не веру, што Марадона будзе сур'ёзна займацца нейкім "стратэгічным развіццём брэсцкага "Дынама". Далі чалавеку грошай зарабіць – і добра. Дарэчы, калі Марадона будзе ладзіць які-небудзь банкет з нагоды ўступлення ў новую пасаду, то няхай бы і пра ветэранаў беларускага футбола не забыў. Мы яшчэ ў форме…



### Міхаіл ХЛУС, дырэктар ФК «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна):

– Пакуль Марадоны няма ў Беларусі – няма што і абмяркоўваць. У нас ужо шмат было выпадкаў, калі з вялікага грому атрымліваўся малы дождж.

**Алесь СІВЫ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Некалькі фактаў з жыцця Марадоны…

*Як ужо вядома, на гэтым тыдні легендарны аргенцінскі футбаліст стаў старшынёй праўлення брэсцкага «Дынама».*

Паведамляецца, што кантракт падпісаны на тры гады. Марадона *"будзе займацца пытаннямі стратэгічнага развіцця клуба, а таксама ўзаемадзейнічаць з усімі яго структурнымі падраздзяленнямі, у тым ліку дзіцячай акадэміяй брэсцкага «Дынама».* Ён прыступае да сваіх паўнамоцтваў у ліпені, пасля заканчэння чэмпіянату свету ў Расіі.

Дыега Марадона, безумоўна, вялікі футбаліст, але праславіўся ён не толькі на футбольным полі…

## Чорная паласа ў жыцці

Былі ў вядомага футбаліста і непрыемныя жыццёвыя этапы. Замежныя СМІ пісалі, што Марадона ўжываў какаін каля 20 гадоў. У 1991 годзе аргенцінца першы раз злавілі на наркотыках. Пасля чарговага матча "Напалі", за які выступаў Марадона, допінг-тэст паказаў какаін у яго крыві. З футболам давялося развітацца на 15 месяцаў.

Пазней з-за наркотыкаў ён ледзь не трапіў у турму, адправіўся ў псіхіятрычную клініку, быў дыскваліфікаваны з чэмпіянату свету 1994 года і ў рэшце рэшт завяршыў кар'еру. Паводле слоў зорнага іграка, да 2004 года наркатычная залежнасць у яго прайшла.

## Адстрэл журналістаў

У Марадоны своеасаблівыя стасункі з журналістамі, хаця дзеля справядлівасці трэба сказаць, што і прадстаўнікі СМІ нярэдка паводзілі сябе не зусім этычна.

Рэакцыя зоркі была рознай. Напрыклад, аднаму з аператараў аргенцінскага тэлеканала футбаліст наехаў сваёй машынай на нагу. Але самы вядомы выпадак праяўлення нелюбові да прэсы адбыўся ў 1994 годзе. Пасля чарговага курсу лячэння ад наркатычнай залежнасці Дыега адпачываў ва ўласным доме ў Аргенціне, калі да яго вырашылі наведацца папарацы. Цырымоніцца футбаліст не стаў: разам са сваімі ахоўнікамі адкрыў агонь з пнеўматычнай зброі. Як вынік – лёгкія раненні ў чатырох чалавек і 2 гады ўмоўнага заключэння. Пракурор прасіў рэальны тэрмін зняволення, але ў Марадоны быў вельмі добры адвакат.

## Канфіскавалі гадзіннік і завушніцу

Калі Марадона прыязджае ў Неапаль, дзе сем гадоў гуляў за мясцовы "Напалі", то заўсёды выклікае там фурор. Зрэшты, падчас такіх візітаў былі для Дыега і непрыемныя моманты. Падчас выступлення за "Напалі" аргенцінец вёў шыкоўнае жыццё, і пры гэтым ухіляўся ад выплаты падаткаў. У выніку даўгоў назбіралася прыкладна на 40 мільёнаў долараў.

Таму падчас візітаў Марадоны ў Італію мясцовая паліцыя спрабавала канфіскаваць у яго якія-небудзь рэчы. У 2006 годзе ў аргенцінца забралі гадзіннік Rolex, якіх, дарэчы, у яго цэлая калекцыя. А ў 2009 годзе Марадоне давялося развітацца з завушніцай у вуху, якую затым прадалі на аўкцыёне.

## Крытыкаваў Папу Рымскага

Для Марадоны не існуе аўтарытэтаў – ні на зямлі, ні на небе. Гэта ён даказаў, калі выступіў у сваёй аўтабіяграфічнай кнізе з рэзкай крытыкай Папы Рымскага.

Футбаліст прыехаў на аўдыенцыю да пантыфіка пасля трыумфальнага чэмпіянату свету 1986 года і быў вельмі расчараваны атмасферай у Ватыкане.

*"Так, я пайшоў супраць Папы Рымскага*, – успамінаў Марадона. – *Гэта адбылося таму, што я прыехаў у Ватыкан і ўбачыў дахі з золата. А затым пачуў, як Папа казаў, што Царква непакоіцца пра бедных дзяцей… Бог ты мой, дык прадай залаты дах і зрабі што-небудзь для дзяцей!"*

## Хто кароль футбола?

Яшчэ ў тыя часы, калі Марадона гуляў, яго рэгулярна параўноўвалі з легендарным бразільцам Пеле. Сам аргенцінец да такіх паралеляў ставіўся скептычна, а яго адносіны з Пеле можна назваць даволі халаднаватымі, і на працягу доўгага часу яны ў прэсе падпускалі шпількі ў адрас адзін аднаго.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
18 МАЯ 2018 г.

В ЦЕНТРЕ ВНИМАНИЯ

# Первая неделя премьерства Пашиняна: что сделал глава правительства Армении



*Чуть более недели назад Армения получила нового премьер-министра – **Никола Пашиняна**. Что за это время удалось сделать лидеру «бархатной революции» и как оценивают его действия эксперты?*

За короткое время на посту премьер-министра Никол Пашинян успел заменить всех министров, уволить наиболее скандально известных чиновников и генералов, включая начальника полиции Армении и командующего внутренними войсками, и сделал открытыми заседания правительства. Он также распорядился улучшить правила таможенного регулирования и принял участие в саммите ЕАЭС в Сочи, где встретился с Владимиром Путиным. Подробнее о первых шагах на посту премьера лидера армянской «бархатной революции» и их оценке со стороны аналитиков рассказывает «Немецкая волна».

### Изменение стиля армянской политики

Первое, что, говоря о начале премьерства Никола Пашиняна, в один голос отмечают наблюдатели, – изменение атмосферы в стране. Здесь никогда не видели, чтобы министры пользовались общественным транспортом, а премьер-министр приходил на работу пешком. Правда, теперь его знаменитый рюкзак носит за Пашиняном один из телохранителей. Полностью сменив состав правительства Армении, он ввел в новый кабинет министров молодых людей – тех, кто поддержал его в борьбе против старой власти, – и именно они, по задумке Пашиняна, возглавят борьбу с коррупцией в стране.

Премьер обещал, что люди почувствуют изменения в своей жизни в самое ближайшее время. Первые его распоряжения коснулись работы таможни, он потребовал значительно ускорить процедуры по растаможиванию товаров и ликвидировать монополии – теперь каждый гражданин Армении в рамках закона может ввозить в страну все, что посчитает нужным. Ранее, к примеру, дизтопливо, бензин, сахар, бананы ввозились монополистами. На очереди обнуление всех штрафов и пеней за просроченные сельскохозяйственные и потребительские кредиты, а также снижение размеров штрафов за нарушение ПДД.

В понедельник 14 мая Пашинян совершил свой первый зарубежный визит – на саммит ЕАЭС в Сочи. Там он встретился с президентом России Владимиром Путиным и в разговоре с ним, в частности, подтвердил готовность Еревана к выполнению международных обязательств, включая ЕАЭС. «*Армения настроена на активное взаимодействие с партнерами по ЕАЭС в интересах практического достижения свободы передвижения грузов, услуг, рабочей силы и капитала, а также внедрения льготных режимов экономического сотрудничества*», – заверил Пашинян.

### Работа в режиме онлайн

Ежедневно ближе к полуночи премьер-министр на своей странице в Facebook рассказывает людям о том, что он сделал за прошедший день. Такой открытости и непосредственности от него никто не ожидал. Глава правительства показал свой рабочий кабинет и пообещал сделать это с особняком, в котором будет жить, – «*чтобы люди знали, на что идут деньги налогоплательщиков*».

Сообщая о новых назначениях в правительстве, он разъяснял, почему именно этот человек возглавил то или иное министерство или ведомство. Каждый день Пашинян рассказывает, какие поручения дал чиновникам для улучшения ситуации в той или иной сфере. По мнению наблюдателей, лидер «бархатной революции» так отчитывается перед народом, благодаря усилиям и воле которого он стал главной политической фигурой в стране.

### Инвентаризация внутри и за пределами Армении

Пашинян завершил формирование нового правительства, главная задача которого – преодоление глубокого политического и экономического кризиса посредством системных реформ, заявил DW эксперт Армянского центра политических и международных исследований **Рубен Меграбян**, оценивая первые шаги нового премьера.

Считанные дни, конечно, не тот срок, по итогам которого можно делать даже предварительные выводы. «*Тем не менее молодая амбициозная команда, первые заявления, стремление к постоянному поддержанию обратной связи с гражданами, работа от рассвета до заката – все это говорит об упорстве и нацеленности на результат, который, думаю, оправдает ожидания общества*», – прогнозирует эксперт.

### Главный вопрос – досрочные выборы в парламент

По мнению политолога **Микаэла Золяна**, у Пашиняна сейчас сложный период. Прежде всего потому, что пока нельзя сказать, что у него есть полнота власти, «*у республиканцев все еще большинство в парламенте, они контролируют ряд важных постов, в том числе, например, пост мэра Еревана, но ответственность за страну уже лежит на премьере и его команде*».

По выражению Золяна, пока трудно говорить о конкретных изменениях в отдельных сферах, но есть одна, где подходы новой власти кардинально отличаются от прежних. «*Пашинян и его команда принципиально иначе подходят к коммуникации с обществом: сам премьер и новоназначенные министры раз в день обращаются к гражданам через live-видео в Facebook и других соцсетях, реагируют на критику в свой адрес, а первое заседание нового правительства транслировалось в прямом эфире*», – пояснил Золян.

Тем временем в Ереване и других регионах Армении продолжаются акции протеста против старой власти. Так, недовольные пикетируют столичную мэрию и здание Генпрокуратуры, требуя отставки мэра и генпрокурора. Наблюдатели уверены, что еще последуют новые кадровые перестановки. Но главным вопросом они по-прежнему называют необходимость проведения внеочередных выборов в парламент Армении.

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Для белорусского генерала литовцы требуют пожизненного заключения

*Речь идет о Владимире Усхопчике, который в свое время был командующим Вильнюсским гарнизоном.*

Также Генпрокуратура Литвы предлагает признать бывшего министра обороны СССР **Дмитрия Язова** виновным в преступлениях против человечности и приговорить его к пожизненному заключению.




На днях состоялось заседание Вильнюсского окружного суда по делу Язова. Его обвиняют в том, что в конце 1990 года он создал организованную группу из 160 военных и политических деятелей с целью возвращения Литвы в состав СССР, говорится в обвинительном акте Генпрокуратуры Литвы.

93-летнему Язову, который живет в Москве, предъявлены обвинения в преступлениях против человечности и военных преступлениях. Его заочно будут судить за совершенные преступные деяния.

Обвиняемый на заседаниях суда не присутствует, его защищает назначенный Литвой адвокат.

Согласно обвинительному акту, Язов создал преступную группировку вместе с ныне покойными министром МВД СССР **Борисом Пуго,** председателем Комитета госбезопасности **Владимиром Крючковым**, секретарем ЦК и членом Политбюро **Олегом Шениным**.

Прокуроры утверждают, что Язов действовал, зная, что в период между двумя мировыми войнами Литва была независимой, а 11 марта 1990 года объявила о восстановлении независимого государства. В обвинительном акте говорится, что, привлекая компартию и создавая различные организации, Язов со своими соратниками поручил другим должностным лицам «*подготовить план захвата власти в Литве, составить список стратегически важных объектов, подлежащих захвату, включив в него государственные органы власти и управления, объекты массовой информации, коммуникации, пути сообщения*».

Согласно документу, 11 января 1991 года при реализации плана преступных деяний с помощью военных действий была начата агрессия со стороны Советского Союза и вооруженный конфликт в Литве. В нем описываются нападения в Вильнюсе, Алитусе, много внимания уделено захвату вильнюсского Дома печати.

Прокуроры предлагают наказание 67 обвиняемым по делу о событиях 13 января 1991 года, им предъявлены обвинения в военных преступлениях, преступлениях против человечности и т.д.

Помимо Язова наказание пожизненным заключением предложено назначить и бывшему командующему Вильнюсским гарнизоном **Владимиру Усхопчику.** 13 января 1991 года советская власть пыталась силой свергнуть законную власть в Литве, которая 11 марта 1990 года объявила о независимости от СССР.

В 2001 году прокуратура Литвы в постановлении о розыске генерала писала: «*Усхопчик Владимир Никитович… используя войска бывшего СССР, захватывал госучреждения и предприятия, участвовал в убийствах жителей Литвы и нанесении им телесных повреждений, похищал оружие, осуществлял разбой, имея целью захватить государственное и общественное имущество*».

Владимир Усхопчик не считает себя виновным и говорит, что ему этот переворот был ни к чему. «*На мне нет крови невинных людей. У меня офицеры и солдаты были без боеприпасов,* – много раз рассказывал Усхопчик. – *В Вильнюсе мы сделали так, что обеспечили надежную охрану вооружения и боеприпасов. Мне этот переворот ни к чему был. Я вообще хотел остаться в Литве жить, когда приехал из Афганистана*».

Напомним, что при занятии советскими военными частями и спецподразделениями Вильнюсской телебашни и здания Литовского радио и ТВ погибли 14 человек, более тысячи безоружных людей пострадало. По делу 13 января по обвинению в создании антигосударственных организаций и совершении других преступлений уже были осуждены шесть человек.

**Вера ВИР.**

У СОСЕДЕЙ

## Литва идет на пенсионную реформу

Правительство Литвы предоставило планы, связанные с пенсионной реформой. Если парламент одобрит предложение, то важные решения будут приняты уже в конце этого года.

Предполагается изменить формулу пенсионного накопления, включив в систему всех жителей младше 40 лет. Правда, они могут отказаться, если представят письменное заявление, причем отказ надо будет дать три раза.

Останется лишь один способ накопления – перевод 4% своей зарплаты плюс 2% средней зарплаты в «Содру» – дополнительно уже из госбюджета. До 4% с уже имеющихся 2% личные взносы увеличатся постепенно в течение 5 лет: 2019 г. – 0,4%; 2020 г. – 0,8%; 2021 г. – 1,2%;, 2022 г. – 1,6%; 2023 г. – 2%.

Если человек будет откладывать из своей зарплаты больше 4%, его ждут налоговые льготы. Кроме того, всем работникам «содровский» налог уменьшат на 2%.

Обсуждается, какие решения важно принять 30-летним, а какие – 50-летним жителям. В первую очередь здесь важен не возраст, а то, участвовал ли человек в дополнительном пенсионном накоплении до этого. Возраст важен лишь в том случае, если человек в системе дополнительного накопления не участвовал.

Это значит, что, если человеку 40 лет и он до сих пор не откладывал деньги, его автоматически в систему не включат (это касается и 50-летних). Считается, что копить деньги имеет смысл, если человек делает это минимум 30 лет.

Тех, кто до сих пор откладывал деньги, в систему включат автоматически, однако они могут отказаться от участия в ней.

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

## Вспышка кори: за неделю заболели более 1400 украинцев



В Украине продолжается вспышка заболевания корью, за неделю с 7 по 13 мая заболели 1407 человек: 651 взрослый и 756 детей.

Об этом сообщает пресс-служба Министерства охраны здоровья Украины.

По оперативным данным Центра общественного здоровья Минздрава, количество новых случаев заболевания за последнюю неделю возросло.

Больше всего новых случаев зафиксировали в Винницкой, Волынской, Киевской, Львовской, Луганской, Ровенской, Черниговской областях и в Киеве. Количество взрослых, заболевших корью, также растет.

Напомним, что защититься от кори помогает только вакцинация.

НЕСЧАСТНЫЙ СЛУЧАЙ

## Американец умер из-за взрыва электронной сигареты

*Как сообщает ВВС, это произошло 5 мая, а теперь стали известны результаты экспертизы.*

*38-летний телепродюсер Тэлмидж Д'Элиа получил ожоги 80% тела, а в его черепе судмедэксперты обнаружили осколки устройства для курения.*

Жертву вейпинга обнаружили в спальне его горящего дома.

Эксперты полагают, что телепродюсер умер в результате несчастного случая.

Злосчастную е-сигарету произвела компания Smok-E Mountain.

Отмечается, что это первая смерть от вейпа в Соединенных Штатах Америки.

По данным Управления пожарной охраны США, с 2009-го по 2016 год в США было 195 случаев взрывов или возгораний электронных сигарет, в результате чего травмы получили 133 человека, причем 38 из них – тяжелые.

В 2015 году электронная сигарета взорвалась перед лицом 29-летнего курильщика в Колорадо, сломав ему шею и разбив зубы.

В январе этого года в аэропорту Денвера случился пожар – якобы из-за литий-ионной батареи вейпа.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ



# Мінскі абраз Божай Маці

Было гэта яшчэ тады, калі Святая Багародзіца цешылася сваім зямным жыццём. Кажуць, нават беларускую зямлю наведвала. Пра гэта сведчаць магутныя ледавіковыя валуны, на якіх засталіся яе сляды. А евангеліст Лука скарыстаў свой талент, каб стварыць некалькі прыжыццёвых ікон Божай Маці. Адзін з такіх абразоў, які захоўваўся ў Візантыі, меў надзвычайную духоўную каштоўнасць. Калі ў 989 годзе сястра візантыйскіх імператараў Васіля II і Канстанціна IX Ганна выходзіла замуж за кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча, яна разам з іншымі царкоўнымі святынямі прывезла гэты абраз у крымскі горад Корсунь.

Відаць, ён годна спрыяў святому роўнаапостальнаму князю Уладзіміру, якога ў народзе называлі Краснае Сонейка. Менавіта пры ім стала на крыло магутная слава Кіеўскай Русі, менавіта ён пачаў увядзенне хрысціянства ў 988 годзе. Гэтую богаспадобную справу дастойна асвячаў і візантыйскі абраз Божай Маці, які вялікі кіеўскі князь змясціў у спецыяльна збудаванай ім царкве Раства Прасвятой Багародзіцы. Ягоную цудатворную сілу адчуў князь яшчэ падчас першай сустрэчы з Ганнай. Якраз тады ў яго забалелі вочы, а жонка параіла памаліцца перад Святой Дзевай Марыяй. Дапамагло, як пасля гэтага здаралася не раз. Тысячы вернікаў з усіх бакоў сцякаліся ў кіеўскую Дзесяцінную царкву, каб схіліць галаву перад абразом Багародзіцы, папрасіць даравання, спрыяння, дапамогі, збаўлення ад хваробы. Усім добрым людзям дапамагала Божая Маці.

Праз усё жыццё гэтая святыня мела для князя асаблівае значэнне, накіроўвала яго на добрыя справы, стрымлівала ад благога. Так яны і паядналіся ў сваіх клопатах пра лёс тутэйшай зямлі і люду – вялікі князь Уладзімір і старадаўні візантыйскі абраз Божай Маці, заступніцы ўсіх пакрыўджаных.

Ды Дзесяціннаму храму, як і наогул Кіеўскай зямлі, выпаў суровы лёс. Найбольшае разбурэнне прынеслі ў 1240 годзе мангола-татары. Пасля нашэсця мангольскага хана Батыя, унука Чынгісхана і пазнейшага хана Залатой Арды, царква амаль 400 гадоў ляжала ў руінах. Дзе ў гэты час знаходзіўся цудатворны абраз, не вядома.

Аднак далейшыя звесткі пра яго звязаны з ханам Менглі-Гірэем, сынам былога лідскага старасты Хаджы-Гірэя. Калі войскі Менглі чарговы раз напалі на Кіеў, адзін з яго воінаў абадраў з абраза ўсе каштоўныя ўпрыгажэнні, а саму ікону кінуў у Днепр. Ды Божая сіла паспрыяла цудатворнаму абразу.

Праз некалькі гадоў ён з'явіўся на рацэ Свіслач, ля самага горада Менска. Здарылася гэта па старым стылі 13 жніўня 1500 года. Людзей здзівіла і прывабіла нязвыклае святло і ззянне, што сыходзілі з вады. Калі прыгледзеліся, распазналі святы абраз. Вернікі з вялікай пашанай паднялі яго і перанеслі ў замкавую царкву Раства Прасвятое Багародзіцы. Там святыню ўшаноўвалі і атрымлівалі збаўленне ад бед і непамыснасцяў цягам 116 гадоў.

З даўніх часін Багародзіца выступае як надзейная абаронца ад усіх бед і нягод, ад нячыстай сілы, як суцяшальніца пакрыўджаных, заступніца дзяцей і спрыяльніца параненым. Нездарма ў воінаў як самыя дарагія амулеты захоўваліся на шыі вузельчыкі з перапісанай малітвай да Прасвятой Багародзіцы. Калі ж на землях Вялікага Княства Літоўскга пачалося высвятленне адносін паміж вернікамі розных рэлігійных накірункаў, абраз Божай Маці з замкавай царквы перанеслі ў царкву базыльянскага манастыра Святога Духа. Пасля ікона пабывала ў Петрапаўлаўскім і Свята-Духавым кафедральных саборах.

На пачатку Вялікай Айчыннай вайны абраз апынуўся на складзе непатрэбных рэчаў паблізу Дома афіцэраў у Мінску. Аднак адна з набожных кабет знайшла яго. Абраз адрэстаўравалі і змясцілі ў Петрапаўлаўскай царкве. У 1945 годзе святыня была перанесена ў кафедральны Свята-Духаў сабор, дзе знаходзіцца да гэтага часу.

Як пакутная вандроўніца, Мінская ікона Божай Маці разам са сваімі вернікамі спазнала горыч страт і нястач, радасць пастаяннага вяртання да жыцця. Яна стала ахоўніцай лёсу і жыцця жыхароў беларускай сталіцы. Нездарма вобраз Багародзіцы змешчаны на сённяшнім гербе старажытнага Мінска.

Больш як тысячагадовай даўніны абраз і дагэтуль не выракся свайго цудадзейнага спрыяння. Людзі наталяюцца ягонай моцай, што гартуе дух, дапамагае стаць руплівым гаспадаром гэтай зямлі, назоў якой праз вякі поклічным звонам гучыць для нашчадкаў вялікіх спраў. І назоў гэты разам з меладычнымі званамі галоўнага храма нашай краіны, разам з жыццятворным святлом Мінскага абраза Божай Маці штодзённа цэдзіцца над зберажонай Богам Беларуссю.

На пачатку XVI стагоддзя слынны беларускі паэт-лацініст Мікола Гусоўскі ў сваёй паэме «Песня пра зубра» так звяртаўся да Багародзіцы:

*Боская Маці, Прачыстая дзева Марыя…*
*О, заступіся за нас! Праз любоў к Чалавеку*
*Бацька наш Бог і абраў цябе сам, і паставіў*
*Першай заступніцай люду, і ты заступіся!*
*Як птушаняты ў нягоду пад матчына крылле,*
*Так пад тваю абарону і мы прыбягаем.*
*Хай хто пакрыўдзіць дзіця, і малое заплача –*
*Маці ж прыгорне крывінку сваю і суцешыць.*
*Ты – наша маці-заступніца, мы – твае дзеці.*

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак у №№31–39.)*

## Усе пагадзіліся: школе быць

На выхадзе лета 1941 года да магілян дайшлі чуткі, нібыта ў іх мястэчку, як і ва ўсіх больш-менш буйных населеных пунктах акупаванай тэрыторыі, мяркуецца арганізацыя школьнага навучання дзяцей. Такое не магло не здзіўляць: ішла ж вайна.

У тыя гады ў сем'ях было шмат дзяцей школьнага ўзросту, пакідаць якіх дома мала каму хацелася. Вось гэта і стала прычынай даволі частага грамадскага абмеркавання дадзенага пытання. За пачатковую школу стаялі практычна ўсе, а вось датычна мэтазгоднасці пасылаць дзяцей у 5–7-ы класы погляды раздзяліліся. Тыя, у каго бацька быў на фронце, лічылі за лепшае, каб дзеці мужчынскага полу заставаліся дома, дапамагалі маці па гаспадарцы. Такая дапамога, казалі, вельмі спатрэбіцца, калі ліквідуюць калгас. Пры падобнага кшталту гаворках не раз даводзілася прысутнічаць і мне, пра што заўсёды паведамляў свайму хвораму тату. У яго не было ніякіх хістанняў.

– Абавязкова пойдзеш у 6-ы клас. Трэба вучыцца. Адукаваныя людзі ва ўсе часы і ва ўсіх краінах жылі лепш, цікавей за непісьменных.

У пацвярджэнне сказанага прыводзіліся пераканаўчыя прыклады, як, дзякуючы добрай адукацыі, многія магіляне ў даваенны час зрабілі неблагую кар'еру. Такое мне цалкам імпанавала, бо я на свае вочы бачыў, як у невыносна цяжкіх умовах жылося і працавалася ў даваенны час магілянам, у тым ліку і майму тату. У зімовы час не раз здаралася такое, што ён, стомлены працай, азяблы, не мог нават сам зняць лапці з ног. Тлумачылася гэта тым, што ў абедзенны час, калі сонца трохі грэла і снег станавіўся мокры, анучы ў лапцях моцна намакалі, а пакуль увечар дабіраўся на санях да хаты, замярзалі. Жыць так мне зусім не хацелася. Калі аднойчы пасля такога разування тата задаў пытанне "Ну а кім ты хачэў бы працаваць?", я не палез па словы ў кішэню, а адразу адказаў: "Тым, хто на хлеб пяром зарабляе". Тату такі адказ спадабаўся, а я сваё слова стрымаў.

Ісці вучыцца ў школу падахвоціла мяне і выпадкова пачутая вечарам размова сталых людзей. Неабходнасць пасылкі дзяцей на вучобу адзін з прысутных усяляк абгрунтоўваў тым, што як скончыцца вайна (а ён, як і многія магіляне, не сумняваўся ў перамозе Германіі), дык і перад нашай адукаванай моладдзю адкрыюцца шырокія магчымасці вучыцца, жыць і працаваць у розных краінах. Неадукаваны ж чалавек з нашых краёў калі і трапіць туды, дык толькі на цяжкую фізічную малааплатную працу.

З нашай сям'і пайшлі вучыцца ў Магілянскую сямігадовую школу тры чалавекі: Ліда, я і Ада. Хаця Ліда ўжо да вайны скончыла 7 класаў, адказныя за арганізацыю вучобы пераканалі і яе, і бацькоў паўторна наведваць заняткі ў школе, дзе яна, запэўнівалі, даведаецца пра многае з таго, чаго не выкладалі ў савецкай школе.

За настаўнікаў працавалі пераважна ўраджэнцы Вуздзеншчыны, але магілян сярод іх было мала. Уладкавалася ў нашую школу і жонка беларускага пісьменніка Ільі Гурскага, які нарадзіўся ў Замосці, што за адзін кіламетр ад Магільнага. Настаўнікам дазвалялі непаслухмяных дзяцей біць па далоні лінейкай, але такая практыка амаль не прыжывалася ў нашай школе. Трэба сказаць, што праблем з дысцыплінай вучняў цяпер было непараўнальна менш, чым у даваенны час. Не памылюся, калі такое патлумачу нялёгкімі ўмовамі жыцця пад акупацыяй. У горы людзі часта становяцца больш спагадлівыя адзін да аднаго, што не можа не адбівацца і на дысцыпліне вучняў у школе. У гады акупацыі неяк не адчувалася непераадольнай сцяны паміж імі і настаўнікамі. Магчыма, гэтаму спрыяў і ўведзены ва ўжытак зварот першых да другіх. У такіх выпадках да настаўнікаў мужчынскага полу ўжывалася слова "дзядзька", жаночага – "цётка", а гэта ўжо нешта роднаснае, блізкае. Падбадзёрвалі нас і тыя словы, якімі вітаўся з намі настаўнік, уваходзячы ў клас: "Жыве Беларусь!", – на якія мы дружна адказвалі: "Жыве!" Дружна таму, што ўсім жа хацелася, каб Беларусь не сканала, жыла і ў нялёгкія гады акупацыі.

У школе нас ніхто не выхоўваў русафобамі, антысемітамі, прыхільнікамі нацыянал-сацыялізму, а вось на нацыянальнае выхаванне звярталася шмат увагі і на ўроках, і падчас пазашкольных мерапрыемстваў. Нішто не прыносіла такой радасці, як чытанне настаўніцай беларускай мовы і літаратуры паэмы Якуба Коласа "Новая зямля". У ёй жа згадваецца і ўрочышча Ліпава, што за 4–5 кіламетраў на поўдзень ад Магільнага. З гэтым урочышчам маглі б быць вялікія непрыемнасці для некаторых вучняў 6-га класа, у якім вучыўся і я. Пад канец навучальнага года ў нашай мясцовасці ўсё часцей сталі з'яўляцца невялікімі групамі партызаны. І вось аднойчы ў час заняткаў каля варот школьнага плота спыніўся нямецкі бранявік. З акон класа мы ўбачылі, як з яго выйшлі два немцы і ледзь не подбегам пашыбавалі ў школу. І трэба ж было здарыцца такому, што пры наведванні не яны выбралі наш клас, дзе якраз вяла ўрок па беларускай літаратуры (чытала паэму Якуба Коласа "Новая зямля") жонка пісьменніка Ільі Гурскага. Яна не раз заходзіла ў нашую хату, размаўляла з мамай, якую хрысціла адна са сваячак гэтай настаўніцы. Такое не магло не паўплываць і на яе стаўленне да мяне. На даволі зразумелай для нас рускай мове адзін з немцаў паведаміў, што ў Ліпаве знаходзіцца невялікая група партызанаў, і з дазволу настаўніцы папытаўся, хто з вучняў ведае дарогу да гэтага ўрочышча. Амаль усе хлопцы з Магільнага, у тым ліку і я, паднялі ўгару рукі. Раптам я заўважыў, з якім суровым асуджэннем глянула на мяне настаўніца, і тут жа апусціў руку. Немец забраў з сабой трох вучняў-павадыроў. Але да таго, як яны падышлі да бранявіка, яго кіроўца ўжо гутарыў з дарослым хлопцам з вёскі Язвіны, паблізу якой і знаходзіцца Ліпава. Вучні вярнуліся ў клас. Настаўніца не стала абмяркоўваць незвычайную сітуацыю, выкліканую нечаканым візітам немцаў у клас. На іх жа просьбу паказаць Ліпава вучні дружна адгукнуліся не таму, што яны любілі немцаў і ненавідзелі партызанаў. Наадварот, як толькі тыя пачалі невялікімі групамі з'яўляцца ў нашай мясцовасці, амаль усе жыхары Магільнага, а асабліва дзеці, вельмі абрадаваліся гэтаму. Згода ж паказаць немцам Ліпава, хутчэй за ўсё, была выклікана жаданнем праехацца ў бранявіку. Ды й далёка не ўсе, хто падняў руку, добра ведалі, дзе тое Ліпава. Я, напрыклад, пад такой назвай ведаў толькі поле, а не ўрочышча. Немцы не напалі на след партызанаў, вярнуліся ў Вуздзу ні з чым. Калі б немцам удалося здзейсніць задуманае пры дапамозе вучняў ці таго хлопца з Язвін, няцяжка ўявіць, чым бы ўсё гэта скончылася для іх з актывізацыяй партызанскага руху. Пакаранне панесілі б і бацькі такіх вучняў. Наўрад ці ўдалося б такім вучням-"здраднікам" зрабіць сабе кар'еру ў пасляваенны час.

Да працы школы пільна прыглядаліся бацькі. Іх радавала, што ў ёй панаваў беларускі дух. Настаўнікі не толькі на ўроках, а і па-за школай, паміж сабой і з мясцовымі жыхарамі размаўлялі выключна па-беларуску, што не заўсёды назіралася перад вайной, асабліва сярод нядаўніх выпускнікоў педагагічных навучальных устаноў, паколькі пазіцыі ўсяго беларускага тут год ад году слабелі. "Русілі" і настаўніцы з ліку афіцэрскіх жонак. Адна з іх, калі я вучыўся ў чацвёртым класе (1939/1940 н.г.), выкладала ў нас спевы і амаль на кожным уроку прапаноўвала спяваць рускую народную песню "Во поле берёзонька стояла". Спявалі так, што добра было чуваць на ўсім калідоры. Аднойчы, пачуўшы гэтую песню, зайшоў у клас дырэктар школы і вельмі ветліва сказаў настаўніцы, што з вучнямі трэба спяваць беларускія песні. Яна не пярэчыла, але і на наступны раз не абышлося без выканання "Во поле…". Дырэктар жа вырашыў праверыць, як выконваецца яго ўказанне. Пачуўшы, што ніяк, увайшоў у клас і пакінуў яго разам з настаўніцай. Мы засталіся адны, займаючыся кожны сваёй справай. Тая настаўніца больш не выкладала ў школе спеваў. Тлумачыла, што не ведае беларускамоўных песень. Калі пра такое даведаліся мы, дык любілі пры сустрэчы з гэтаю настаўніцаю з лёгкай іроніяй праспяваць першы радок песні "Во поле берёзонька стояла". У гады ж акупацыі на ўроках спеваў гучалі толькі беларускамоўныя песні, значную колькасць якіх настаўнік запісаў ад мясцовых жыхароў.

…Па-рознаму склаўся лёс нашых настаўнікаў па заканчэнні першага і апошняга навучальнага года ў перыяд акупацыі. Адны неўзабаве далучыліся да партызанскага руху, другія, пераехаўшы ў Вуздзу, сталі падпольшчыкамі (дзве з настаўніц – Дземідовіч і Кляткоўская – загінулі ад рук гестапаўцаў). Адам Александровіч (вуздзенскі татарын) пасля выгнання акупантаў прасіўся на фронт, але не ўзялі з-за таго, што быў аднавокі. Дырэктара школы Крысько адразу ж пасля вызвалення кінулі ў самае пекла вайны, з якой ён, цяжка паранены, хутка вярнуўся дахаты, на ўсё жыццё застаўшыся інвалідам.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

ПЕРАД СОБЫТИЕМ

# Ночь, музыка, музей, Оксана



Это должно было случиться – певицу с такой выразительной внешностью и темпераментом, как солистка Большого театра Оксана Волкова, должны были начать рисовать художники. И вот появился первый портрет оперной дивы кисти заслуженного художника Республики Беларусь Николая Киреева – он будет представлен публике в эту субботу во время международной акции «Ночь музеев» в Национальном художественном. Но изюминка акции состоит в том, что сама певица не только будет присутствовать на презентации картины, но и даст для публики небольшой сольный концерт прямо под холстом. Оксана Волкова уже приходила пробовать голос в стенах музея, взяла несколько верхних нот (испугав смотрителей, которые были не в курсе подготовки проекта) и акустикой осталась вполне довольна.

Николай Киреев назвал свою работу «Меццо-сопрано» в честь голоса нашей знаменитой певицы. Портрет выразительный, густой, активный. На холсте Оксана изображена во весь рост в одном их лучших своих образов – цыганки Кармен из одноименной оперы Жоржа Бизе. Юбка колоколом, каблучки четко отбивают ритм… Она энергична, привлекательна, желанна. Такова Оксана и в жизни: пластичная, очаровательная, неутомимая. Талантливая!

Сейчас певица находится на гастролях в Китае с прославленной труппой Большого театра России, в которой белорусская певица числится приглашенной солисткой. Вернется артистка в Минск домой только в пятницу. А в субботу вечером – «Ночь музеев». Вот вам и жизнь звезды: перегрузки не меньшие, чем у укладчицы асфальта. Только еще надо голос беречь и всегда выглядеть королевой.

**Виктория ДРОЗД.**

ЗАКУЛІССЕ

# Новы дырэктар і яго старыя медалі

Прызначаны новы дырэктар Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў – Сяргей Крыштаповіч, член Беларускага саюза мастакоў. Пасля звальнення з гэтай пасады мастацтвазнаўцы Наталлі Шаранговіч, дачкі народнага мастака Васіля Шаранговіча, месца пуставала даволі доўга, і сітуацыя нават пачала абрастаць скепсісам, як карабельнае дно ракавінкамі: народ не бачыў годнага прэтэндэнта.

Нарэшце міністр культуры зрабіў чарговае прызначэнне – і зноў нечаканае (да гэтага часу на слыху павышэнне па службе 26-гадовага Паўла Сапоцькі, які з галерыста стаў па высокай волі дырэктарам Нацыянальнага гістарычнага музея). Міністр абраў на пасаду дырэктара Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў вольнага мастака, які шмат гадоў вёў на радыё ў прамым эфіры праграму «Дыялогі аб культуры». Аўтарская перадача ў Сяргея Крыштаповіча атрымлівалася, па-мойму, вельмі ніздрэнна. А міністр, мабыць, любіць слухаць радыё… Адным словам, за сучаснае мастацтва зараз попыт з Крыштаповіча. Таму новы дырэктар рыхтуецца да сваёй першай прэс-канферэнцыі, каб прадставіць сябе і сваю канцэпцыю развіцця Нацыянальнага цэнтра.

Сяргей Крыштаповіч – вядомая персона ў творчых колах. Ён скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (цяпер Акадэмія мастацтваў), рэгулярна ўдзельнічаў у рэспубліканскіх імпрэзах і ладзіў уласныя персанальныя выставы. Быў дырэктарам Палаца мастацтва.

Але, вывучаючы творчую біяграфію новага дырэктара, я прачытала цікавую інфармацыю: мастак Крыштаповіч – уладальнік залатога медаля Акадэміі мастацтваў СССР. Завоблачная вышыня! Праўда, у іншых крыніцах медаль чамусьці «паніжаны» да бронзавага. Непрыемная няўвязачка. Ці ўвогуле дэзінфармацыя?

Сяргей Крыштаповіч яе пракаментаваў так:

– Я атрымаў узнагароду Акадэміі мастацтваў СССР за дыпломную працу – 250-метровы роспіс на сцяне мемарыяльнага музея героя «афганскай» вайны Мікалая Чэпіка ў вёсцы Блужа Пухавіцкага раёна. Была ў той час такая традыцыя – узнагароджваць медалямі лепшыя дыпломныя працы студэнтаў з навучальных устаноў усёй краіны. Беларускія газеты напісалі, што медаль Крыштаповіча – залаты. Нават сваякі з вёскі гэта чулі па радыё і, узрушаныя, тэлефанавалі нам дадому, чаго раней ніколі не рабілі. А калі ў Мінску мне медаль уручаў акадэмік з Масквы, ён "памяняў колер" на бронзавы. Я так здзівіўся, што без страху спытаўся ў мікрафон: "А дзе залаты?" Мэтр, памятаю, сумеўся, але хутка знайшоўся: "Твой лепшы за залаты!" І я зразумеў, што ўступаю ў дарослае жыццё. І пойдзе яно не па кніжным сцэнарыі.

Вось так і з'явілася гэтая супярэчлівая "бронзава-залатая" інфармацыя. Дарэчы, дырэктар школы ў вёсцы Блужа – успомніў падрабязнасці Сяргей Югенавіч – да апошняга не верыў у мастацкую каштоўнасць роспісу, які рабіў студэнт з Мінска. Казаў настаўнікам: "Няхай абараняе свой дыплом, мы потым сцэны зафарбуем". Але роспіс атрымаў медаль, і рабіць рамонт у вестыбюлі сярэдняй школы, на шчасце, не прыйшлося.

Вядома, я пацікавілася, як прыняў мастак вестку аб сваім прызначэнні на пасаду дырэктара цэнтра мастацтваў. Сяргей Крыштаповіч прызнаўся, што навіна была для яго як снег на галаву. А потым з усмешкай дадаў, што заўсёды гатовы да нечаканасцяў, таму што ў дзяцінстве марыў стаць разведчыкам і ў сябрам вывучаў азбуку Морзэ. Я сказала, што такія навыкі ўніверсальныя, яны ого-го як яшчэ могуць спатрэбіцца! І новы дырэктар Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў, падумаўшы, са мной пагадзіўся.

**Алена МАЛОЧКА.**

ЧУЛІ?

## За прапаганду самагубства – у турму!

*Папраўкі ў Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь прадугледжваюць увядзенне ў краіне адказнасці за прапаганду самагубства. Законапраект з прапанаванымі зменамі ў крымінальнае заканадаўства абнародаваны на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.*

Дакумент прадугледжвае дапаўненне КК артыкулам 342.1 «Прапаганда самагубства». Згодна з ім, наўмыснае распаўсюджванне ў любой форме інфармацыі з мэтай абудзіць у індывідуальна не вызначанага кола асоб рашучасць учыніць самагубства пры адсутнасці прыкмет злачынстваў, прадугледжаных артыкуламі 145 «Даводзенне да самагубства» і 146 «Схіленне да самагубства», караецца штрафам, або папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, або арыштам ці абмежаваннем волі на тэрмін да двух гадоў.

Прапаганда самагубства, якая мела вынікам суіцыд або замах на самагубства, будзе пагражаць абмежаваннем волі на тэрмін да чатырох гадоў або пазбаўленнем волі на тэрмін да пяці гадоў.

Прапаганда самагубства, якая мела вынікам самагубства ці замах на яго двух ці больш асоб, можа караціца пазбаўленнем волі на тэрмін ад трох да шасці гадоў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

УИК-ЭНД

# Завтра на шашлыки?

**Почему маринованное мясо вкуснее и чем на самом деле нужно запивать шашлык, а чем – не рекомендуется?**

**Наступило время для выездов на природу, где, как водится, жарим шашлыки. Как их правильно готовить и с чем есть?**



### Готовьте маринад правильно

Лучше делать это самим, а не покупать заготовку для шашлыка в магазине. Маринад обеззараживает мясо (кислая среда – вино, уксус, минеральная вода, лимонный, гранатовый сок – губительна для многих микроорганизмов). К тому же мясо размягчается в маринаде и потом легче переваривается. Добавляйте в маринад помимо специй лук и чеснок: в них есть антиоксиданты.

Кстати, почему предварительно замаринованное мясо вкуснее? В процессе маринования происходит денатурация (свертывание) белка, образуются свободные аминокислоты, которые усиливают вкус мяса. За это отвечает глютаминовая кислота. То есть тот самый глютамат натрия.

### Для жарки шашлыка используйте дрова, а не магазинные угли

Так вы уменьшите количество канцерогенного вещества бензопирена в шашлыке. Когда жир капает на угли, образуется в разы больше бензапирена, чем при попадании на дрова. Бензапирен пропитывает куски мяса. Если вы готовите на вертикальном гриле, то такой опасности нет.

### Не допускайте открытого огня

Его нужно гасить водой, маринадом. Жар должен быть ровным, тогда мясо прожарится равномерно, без образования обугленных кусочков. Если же вы не уследили и краешки шашлыка подгорели, их желательно срезать после приготовления.

### Не перекусывайте бутербродами, пока готовится шашлык

Лучше есть свежие либо запеченные овощи. В мясе много холестерина, который окисляется при термообработке и становится еще более вредным. Овощи же обладают антиоксидантным действием. Причем эти антиоксидантные свойства не теряются после термообработки. А каротиноиды и вовсе лучше усваиваются после приготовления продукта. Так что смело можно запекать овощи, как и мясо, на шампуре. Для этого подойдут кабачки, баклажаны, помидоры, перец, лук.

Можно попробовать проделать такую же штуку с фруктами типа персиков и бананов. И овощи, и фрукты можно есть в неограниченном количестве: и перед шашлыками, и на десерт.

### Овощной салат к мясу не стоит заправлять майонезом

Используйте лимонный сок и смесь масел: тыквенного, горчичного, льняного, оливкового. Так вы получите массу полезных Омега-3 и Омега-6 полиненасыщенных жирных кислот. Они препятствуют повышению уровня холестерина при употреблении шашлыков.

### Запивайте шашлык фруктовым или овощным соком, красным сухим вином

Крепкий алкоголь нежелателен, потому что в сочетании с жиром он дает большую нагрузку на печень. А соки стимулируют выработку ферментов поджелудочной железы, которые способствуют перевариванию мяса. Причем лучше всего расщепляет белок (а не жир, как многие думают!) ананасовый сок.

### Никогда не запивайте шашлык из баранины холодной водой (даже если жарко и очень хочется) или ледяным квасом и пивом

Бараний жир быстро застывает. Представьте горящую свечку, воск с которой капает в воду. Примерно то же самое происходит в желудке, если бараний шашлык запить холодным напитком. Не зря на Востоке жирные блюда – хаш, плов, шашлык – запивают горячим чаем.

### Не злоупотребляйте…

Это «праздничное» блюдо, которое не стоит есть чаще одного раза в две недели. В остальное время лучше употреблять тушеное или вареное мясо. И чем ближе ваш возраст к 50 годам, тем меньше красного жареного мяса может быть в вашем рационе.

